Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 19 (4870) 13 мая 2016 г.





Фота Кастуся Дробава.

*З адкрыцця выстаўкі «СМІ ў Беларусі».*

# «Расла з краінай»

## айчынная журналістыка за гады існавання незалежнай Беларусі

**Юбілейную XX Міжнародную спецыялізаваную выстаўку «СМІ ў Беларусі» можна назваць паспяховай: размясцілася ў вялікім павільёне на праспекце Пераможцаў у сталіцы. Штогод яна дазваляе пазнаёміцца з навінкамі журналісцкіх выданняў і ацаніць рынак сродкаў масавай інфармацыі. Сёлета выстаўка цесна звязана з правядзеннем XI Беларускага міжнароднага медыяфоруму «Партнёрства ў імя будучыні». У межах гэтых дзвюх падзей журналісты і кіраўнікі сродкаў масавай інфармацыі, палітолагі, эксперты краін СНД, блізкага і далёкага замежжа актыўна абменьваюцца досведам і атрымліваюць новыя веды ў галіне журналістыкі.**

Сэнс існавання газеты не губляецца, нягледзячы на стагоддзе розных тэхналогій і з'яўленне разнастайных інтэрнэт-СМІ. Газета ўсё роўна застаецца роднай, блізкай чалавеку, запатрабаванай. Гартаеш — і адчуваеш душу ва ўсім напісаным, адчуваеш, як непаўторны водар газетнай паперы захапляе асаблівай эстэтыкай. Трапляючы на выстаўку «СМІ ў Беларусі», што ўжо тры дні працуе ў выставачным цэнтры «БелЭкспа», заўважаеш, як пах друкаваных выданняў ахутвае прастору і праводзіць наведвальнікаў у свет беларускай журналістыкі.

Адкрыццё выстаўкі СМІ пачалося з прывітальнага слова міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Ліліі Ананіч, якая адзначыла, што беларуская журналістыка за апошнія дваццаць год прайшла сур'ёзны шлях развіцця:

— Калі выстаўка толькі пачыналася, у нас налічвалася каля 800 перыядычных выданняў, не быў так моцна раскрыты патэнцыял нацыянальнага тэлебачання. Сёння мы маем нацыянальную інфармацыйную прастору, якая здольная вырашаць задачы суверэннай Беларусі. Журналістыка вырасла разам з нашай краінай. За 25 год будаўніцтва інфармацыйнага поля на новы ўзровень узнялася і адказнасць журналістыкі. Прыемна, што прадстаўнікі больш як 20 краін свету прэзентуюць сябе на выстаўцы і бяруць удзел у медыяфоруме. Сёння як ніколі вельмі запатрабавана сумленнае, праўдзівае, пераканаўчае і наступальнае журналісцкае слова. Будзем спадзявацца, што прадстаўленая выстаўка — крок наперад, невялічкая приступка ў развіцці айчыннай журналістыкі і нацыянальнага інфармацыйнага поля.

Чытайце на стар. 2

# Вуліца ўражанняў

**Карнавальнае шэсце і цыркавыя нумары, арыгінальныя перформансы, камедыі дэль-артэ і цуды харэаграфіі. А таксама жывыя статуі, гістарычныя і казачныя персанажы, мімы і акрабаты, кірмаш майстроў дзіўных вырабаў і сувеніраў... Артысты з пяці краін упрыгожылі выхадныя сталічных жыхароў парадам тэатральных сцэнак. IV Мінскі форум вулічных тэатраў разгарнуўся на вольным паветры каля Мінскай ратушы, на плошчы Свабоды, напрыканцы мінулага тыдня. У раёне пешаходнай зоны працаваў мастацка-асветніцкі праект па стварэнні — ўнікальнага калажа-выдання «Зробім Мастацтва разам!».**

Чытайце на стар. 3



Фота Марыі Войцік.

*Спектакль «Людзі і анёлы». Вулічны тэатр «Тук-Тук!» (Цірасполь, Прыднястроўе).*

## Пункцірам

✔ Людзі творчай сферы ўносяць у жыццё прыгажосць і духоўнасць, разнастайнасць пачуццяў, што ўзвышаюць чалавека і абуджаюць лепшыя якасці. Гэта падкрэсліў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падчас уручэння дзяржаўных узнагарод дзеячам культуры і мастацтва ў Палацы Незалежнасці ў перадсвяточныя дні. Сярод уганараваных — вядучы майстар сцэны Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Тадэвуш Кокштыс, генеральны дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Уладзімір Грыдзюшка, вядучы майстар сцэны Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага Аляксандр Суцкавер ды інш.

✔ Прадстаўнікі 37 нацыянальнасцей возьмуць удзел у фінальных мерапрыемствах XI Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур, якi адбудзецца ў пачатку чэрвеня ў Гродне. Гэта лепшыя суполкі і калектывы, вылучаныя падчас рэгіянальных тураў форуму ў розных кутках краіны. Як паведамляюць у галоўным упраўленні ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама, сёлета ў гэтым форуме, які па фармаце не мае аналагаў у свеце, упершыню заявяць пра сябе выхадцы з ЗША, Нігерыі, Сірыі, Шры-Ланкі, а таксама Чачні (РФ).

✔ Падчас XXV Міжнароднага фестывалю мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску» шырока прадставяць сваю творчасць майстры мастацтваў Ізраіля, Чэхіі, Грузіі і Кітая. Як паведамляюць у дырэкцыі форуму, сёлета традыцыйны «Фестываль без межаў» набывае асаблівы каларыт. Колькасць канцэртаў у яго праграме будзе павялічана. Рыхтуецца сумесны беларуска-кітайскі праект. Кітай прадставіць у Віцебску і мастацкую выстаўку.

✔ Калекцыя сукенак ад куцюр будзе экспанавацца ў Мірскім замку з 3 чэрвеня па 3 верасня, пасля чаго адправіцца ў Каны. Паводле куцюр'е вячэрняй моды Дэні Дзюрана, які наведаў Мінск для падрыхтоўкі франка-беларускага праекта ў сферы высокай моды *Mir Couture*, гэта сумесная работа майстроў дзвюх краін над стварэннем калекцыі туалетаў вячэрняй і вясельнай моды. Арганізатарамі франка-беларускага праекта выступілі ТАА «Франс Груп», замкавы комплекс «Мір» пры падтрымцы Пасольства Францыі ў Беларусі.

✔ Палац Радзівілаў заўтра запрашае гасцей у інтэрактыўны лабірынт гісторыі «Легенды мінулага — захавальнікі будучыні». Нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік «Нясвіж» і музычны дом «Класіка» арганізуюць у палацы музычна-містычную Ноч музеяў. У праграме акцыі — імправізаваная сустрэча з некалькімі пакаленнямі ўладальнікаў Нясвіжа. Гасцей замка чакаюць займальныя прыгоды, новыя адкрыцці і хвалюючая атмасфера палацавых інтрыг.

✔ Сёння ў Маладзечне пачынаецца V фестываль маладзёжных творчых ініцыятыў «Час жыць!», паведамілі ў Маладзечанскім райвыканкаме. Удзельнікі — маладыя людзі ад 15 да 32 гадоў, маладзёжныя творчыя калектывы і аб'яднанні, установы адукацыі. Фэст прадугледжвае спаборніцтва па некалькіх кірунках, сярод якіх — музычная, выяўленчая, літаратурная творчасць, дабрачынныя творчыя праекты. Пераможцаў узнагародзяць спецыяльнымі дыпломамі і памятнымі прызамі. Прадугледжана выданне зборніка лепшых прац удзельнікаў літаратурнага конкурсу.

***Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка накіраваў прывітанне ўдзельнікам XX Міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі «СМІ ў Беларусі» і XI Беларускага міжнароднага медыяфоруму «Партнёрства ў імя будучыні». Гэтыя значныя міжнародныя мерапрыемствы па праве лічацца аўтарытэтнымі пляцоўкамі для абмеркавання актуальных пытанняў сучаснай геапалітыкі, грамадскага жыцця, развіцця сродкаў масавай інфармацыі, гаворыцца ў прывітанні. «Цяперашняя мінская сустрэча кіраўнікоў СМІ, палітолагаў і экспертаў з блізкага і далёкага замежжа праходзіць у кантэксце асаблівай міратворчай ролі Беларусі ва ўмовах складанай геапалітычнай сітуацыі», — адзначыў Аляксандр Лукашэнка. Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што культурная і інфармацыйная прастора, сфарміраваная за гады незалежнасці Рэспублікі Беларусь, служыць пазітыўнаму стварэнню, сцвярджэнню ідэй інтэграцыі, міру і добрасуседства, эфектыўнаму супрацоўніцтву ў гуманітарнай сферы. Аляксандр Лукашэнка пажадаў удзельнікам выстаўкі і медыяфоруму цікавай плённай працы і творчых поспехаў.***

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

# «Расла з краінай»

У сваю чаргу адказны сакратар Сусветнай асацыяцыі рускай прэсы, першы намеснік генеральнага дырэктара інфармацыйнага агенцтва «ИТАР-ТАСС» Міхаіл Гусман адзначыў гістарычныя аспекты развіцця беларускіх сродкаў масавай інфармацыі:



*Фота Кастуся Дробава.*

*Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Ігар Бузоўскі, міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч, адказны сакратар Сусветнай асацыяцыі рускай прэсы, першы намеснік генеральнага дырэктара інфармацыйнага агенцтва «ИТАР-ТАСС» Міхаіл Гусман адкрываюць выстаўку «СМІ ў Беларусі».*

— Мы, журналісты, зрэдку апынаемся ў цэнтры ўвагі. Часцей нас ганьбяць, гавораць, што прэса вінаватая ва ўсім. Але я лічу: нас крытыкуюць за тое, што мы правільна выконваем сваю справу і звяртаем увагу на тое, што яшчэ патрэбна зрабіць. У гэтым і ёсць місія журналісткі — быць люстрам таго, што адбываецца. За апошнія дзесяцігоддзі беларуская журналістыка расквітнела ва ўмовах сучаснай Беларусі. У яе неверагодна цікавая і вялікая гісторыя. Калісьці мне давялося трымаць у руках партызанскія газеты, якія выдаваліся на беларускай зямлі ва ўмовах акупацыі. Нават тады, у самы складаны час, беларуская прэса здолела быць моцнай.

Сёлета ў выстаўцы «СМІ ў Беларусі» бяруць удзел нацыянальныя тэлеканалы, інфармацыйныя агенцтвы, вядучыя дзяржаўныя рэспубліканскія масава-палітычныя выданні, рэгіянальныя СМІ, галіновыя выданні, FM-станцыі, дыпламатычныя прадстаўніцтвы ў Беларусі ды іншыя. Сярод замежных выданняў — СМІ рэгіёнаў Расійскай Федэрацыі, Саюзнай дзяржавы, краін СНД, Кітая, Венесуэлы і Кубы.

Арыгінальна да ўдзелу ў выстаўцы падышлі абласныя СМІ. На стэндах прадстаўлена цікавая інфармацыя пра кожны горад, пра яго гістарычнае мінулае і сучаснае развіццё. Выданні на любы густ: ад сацыяльна-палітычных да дзіцяча-забаўляльных. Вельмі вабіць стэнд Мінскай вобласці. Яго прадстаўнікі апрануты ў нацыянальнае адзенне, спяваюць беларускія песні і запрашаюць гасцей экспазіцыі далучацца.

Выстаўка прываблівае і дызайнерскім падыходам. Многія выданні да стварэння стэндаў падышлі канцэптуальна. Яркія колеры і разнастайнасць выданняў не даюць цалкам сканцэнтравацца. Да кожнай газеты, часопіса хочацца дакрануцца. Газета «Аргументы и факты» падрыхтавала арыгінальныя конкурсы, «СБ. Беларусь сегодня» разам з газетай дае ў рукі паветраныя шары, тэлеканал «СТБ» запрашае паглядзець іх трансляцыю, седзячы ў камфортных крэслах, а стэнд Выдавецкага дома «Звязда» прыходзяць паглядзець не толькі дарослыя, але і дзеці, якія так і цягнуцца дакрануцца да каляровых старонак «Бярозкі», спрабуюць чытаць разнастайныя буклеты. Дарэчы, на выстаўцы дэманструецца мультымедыйная прэзентацыя «ЛіМа», якая распавядае наведвальнікам пра цікавых герояў, падзеі культуры, пра якія пісалі на старонках газеты.

У экспазіцыі адлюстравана гісторыя развіцця беларускай журналістыкі на прыкладзе найстарэйшых беларускіх выданняў, а для параўнання дэманструюцца новыя камунікацыйныя тэхналогіі, з дапамогай якіх сёння ствараюцца тэлевізійныя і радыёэфіры, здаюцца матэрыялы ў газеты і часопісы.

Выстаўка «СМІ ў Беларусі» — удалая інфармацыйная пляцоўка, бо кожны наведвальнік можа не толькі прайсціся каля стэндаў і пагартаць выданні, але і паразмаўляць з непасрэднымі стваральнікамі журналістыкі, задаць ім пытанні. Для арганізатараў выстаўкі — гэта досвед і магчымасць зразумець, наколькі ўсё ж такі чытачу патрэбна шырокае інфармацыйнае поле і як яно выглядае сёння.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Святло каракумскага сонца

**Выдавецкі дом «Звязда» наведала дэлегацыя кіраўнікоў СМІ Туркменістана. Сустрэча супала з візітам Прэзідэнта Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедава ў Беларусь.**

Сярод гасцей былі галоўны рэдактар газеты «Туркменістан» Какамырат Рэджэпаў, галоўны рэдактар газеты «Нейтральный Туркменистан» Мая Алімава, галоўны рэдактар газеты «Галкыныш» Мердан Газакбаеў, галоўны рэдактар газеты «Ашгабат» Аннамырат Мамедаў, галоўны рэдактар газеты «Эдэбіят ве сунгат» Хемрагулы Худайгулыеў, галоўны рэдактар часопіса «Зенан калбы» Майса Тайджыкава, старшыня камітэта тэле- і радыёвяшчання і кінематаграфіі Туркменістана Максат Алтоеў.

У «Звяздзе» традыцыйна шмат робіцца па пашырэнні беларуска-туркменскіх творчых, літаратурных сувязяў. Значны ўнёсак у гэтым плане зрабілі газета «Літаратура і мастацтва», часопіс «Полымя».

— Мы і надалей хацелі б развіваць такое партнёрства, — выказаў на сустрэчы думку галоўны рэдактар газеты «Эдэбіят ве сунгат» («Літаратура і мастацтва») Хемрагулы Худайгулыеў. — У свой час мы друкавалі ў сваім штотыднёвіку Пімена Панчанку, Янку Брыля, Алеся Жука, Алеся Бадака... Спадзяёмся на новыя пераклады. Чакаем падказак з боку «Літаратуры і мастацтва», іншых газет і часопісаў, якія выдаюцца ў «Звяздзе». Ведаем, што беларусы шмат робяць па прадстаўленні туркменскай літаратуры на мове Купалы і Коласа. І за гэта вельмі вам удзячны!

**Сяргей ШЫЧКО**



*Фота Яўгена Пясецкага.*

*Падчас сустрэчы.*

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Вуліца ўражанняў



*Спектакль «Стоп! Знята!». Тэатр узаемадзеяння «Мусташ» (Мінск).*

Дзеці — самая адданая і пастаянная аўдыторыя форуму. Прыходзілі цэлымі сем'ямі, каб паназіраць больш чым за 20 пастаноўкамі самага рознага кшталту і нават паўдзельнічаць у іх. Адна з галоўных «фішак» ад вулічных тэатраў — інтэрактыў, драматычная сцэна без межаў. Форум з'яўляецца сінонімам адкрытай творчасці, пастаяннага руху, пранікнення мастацтва ў звыклае нам гарадское асяроддзе.

Адзін з прынцыпаў мерапрыемства — пастаяннае з'яўленне новых калектываў і форм падачы. У адным месцы сабраліся артысты з Беларусі, Расіі, Польшчы, Малдовы і Германіі. Адкрыўся форум каларытам Даніэля Дэфо, Дантэ Аліг'еры і Мішэля Турньe ў спектаклі «Рабінзанада» эксперыментальнага тэатра *Eye* з Мінска. Суботні дзень пачаўся з карнавальнага хіт-параду па вуліцах Леніна і Інтэрнацыянальнай. Упершыню форум выйшаў за межы Верхняга горада. Затым — паўгадзінная праграма Белдзяржцырка. Таксама новаўвядзенне.

На працягу двух дзён выступалі мінскія калектывы «Вір», «Тэатр на Гары», «Майстэрня ўражанняў», тэатр лялек, святла і цені «Дом Сонца».

Актыўна ўзаемадзейнічалі з аўдыторыяй артысты тэатра «Мусташ», разгарнуўшы імправізаваны працэс стварэння кінастужкі, дзе гледачы таксама былі акцёрамі. Трэба сказаць, з задавальненнем. Харэаграфічнымі мініяцюрамі парадавалі сталічныя тэатры танца [АДЛЮСТРАВАННІ] і «Альтана».

У ліку рэгіянальных артыстаў вызначыўся Віцебск: тэатральная студыя «Дом ветру», студыя «Фортачка» і народны маладзёжны тэатр «Кола» з музычнай трагікамедыяй-буф «Змяркканне. Гукі. Цені... Чамадан», заснаванай на гратэску і карыкатурах, што стала завяршальным акордам форуму.

З Польшчы з «Бочкай смеху» прыехаў «*Teatr na walizkah*». Упершыню з Германіі — «*Dulce Compania*» з нумарам на хадулях. Ужо ў чацвёрты раз (што вельмі паказальна) наведалі Мінск госці з Санкт-Пецярбурга, творчае аб'яднанне «Карнавальчык» з пастаноўкай «Адважны карась».

Спектаклі форуму атрымаліся далёка не толькі забаўляльныя, але і філасофскія. Напрыклад, рух анёлаў у чорным і белым ад вулічнага тэатра «Тук-Тук!» з Цірасполя. Яны ж распавялі «Філасофскія казкі пра Вожыка і Медзведзяня».

Галоўным арганізатарам святочнай дзеі выступіў Нацыянальны цэнтр сучасных мастацтваў, партнёрам — ЗАТ «Альфа-Банк».

Мінскі форум вулічных тэатраў праводзіцца з 2013 года і стаў ледзь не адзіным у Беларусі мерапрыемствам, якое ў такім маштабе аб'ядноўвае вулічных творцаў. Яны могуць свабодна выказвацца, здзіўляць, паказваць сваё майстэрства. Хочацца верыць, што практыка вывядзення мастацтва на вуліцы з памяшканняў, дзе ўсё агароджана сценамі, будзе толькі пашырацца, набываючы новых прыхільнікаў.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**



*Пастаноўка «Аперацыя "Аберацыя", ці Падвойны падман» ад творчага калектыву «Майстэрня ўражанняў» (Мінск).*

# …І паэзія мужнасці

Арганізатарам Міжнароднага фестывалю «Сусветныя дні паэзіі ЮНЕСКА ў Расіі» сёлета выступіла разанская паэтэса, празаік, аўтар песень, кіраўнік Цэнтра творчага развіцця і псіхафізіялагічнай карэкцыі чалавека Алена Карнеева. «Сусветныя дні паэзіі ЮНЕСКА» прайшлі ўжо ў шаснаццаты раз, але ў Разані, на радзіме Сяргея Ясеніна, ды і ўвогуле ў Расіі свята ладзілася ўпершыню — пры падтрымцы і пад патранатам прэзідэнта Сусветных дзён паэзіі ЮНЕСКА ў Польшчы, Вялікабрытаніі і Літве Аляксандра Наўроцкага. Сімвал сёлетняга фестывалю — расінка.

Свята пашырае магчымасці чытачоў пазнаёміцца з творчасцю сучасных паэтаў і перакладчыкаў з Польшчы, Вялікабрытаніі, Украіны ды іншых краін. У межах фестывалю праходзяць літаратурныя вечарыны і сустрэчы, прэс-канферэнцыі, выязныя мерапрыемствы ў Дзяржаўным музеі-запаведніку Сяргея Ясеніна і ў Дзяржаўным мемарыяльным і прыродным запаведніку Музеі-сядзібе Л. М. Талстога «Ясная Паляна».

Фэст распачаўся ў Варшаве, прайшоў па ўсёй Польшчы, меў свой працяг у Боне і Лондане, а завяршыўся ў Вільнюсе. Да ўдзелу ў ім спрычынілася і намеснік старшыні Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэтэса Любоў Красеўская. Рэдакцыі «ЛіМа» пра гэта распавёў старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення СПБ Анатоль Крэйдзіч.

Падчас аўтарскага творчага вечара «Наша памяць без тэрміну даўнасці…», які прайшоў у Доме Масквы і быў прымеркаваны да Дня Перамогі, свае новыя вершы прадставіла маладая паэтэса, сябар СПБ Таццяна Купрыянец. Пра гэта рэдакцыі «ЛіМа» даведалася ад супрацоўніцы Фундаментальнай бібліятэкі БДУ Людмілы Янковіч.

Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў распавёў публіцы пра першыя крокі Таццяны ў літаратуры. Пасля перамогі ў літаратурным конкурсе сярод студэнтаў БДУ «Славянскі калейдаскоп» дзяўчына заняла першыя месцы ў рэспубліканскім конкурсе маладых паэтаў Беларусі-2015 (намінацыя «Што помніць свет уратаваны») і на міжнародным конкурсе «Русская речь» сярод маладых паэтаў з краін СНД.

На творчым вечары Таццяна не толькі пазнаёміла гледачоў са сваёй патрыятычнай лірыкай, але і выканала некалькі аўтарскіх песень пад акампанемент гітары. Яе вершы прагучалі і ў выкананні артысткі эстрады Вольгі Багушынькa.

Сёлета ў конкурсе «Я вам раю пачытаць», арганізаваным аддзелам адукацыі, спорту і турызму адміністрацыі Маскоўскага раёна г. Брэста, удзельнічалі вучні 9 — 11 класаў устаноў адукацыі Маскоўскага раёна. Творчае спаборніцтва мела на мэце папулярызацыю беларускай кнігі, павышэнне прэстыжу чытання і ўзроўню маўлення сярод моладзі. Пра гэта рэдакцыі паведаміла наша чытачка Ніна Дрык.

Вучні звярнуліся да творчасці Зінаіды Дудзюк, Міколы Пракаповіча, Валерыя Гапеева ды іншых сучасных пісьменнікаў. Не забыліся і пра класікаў: Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Івана Шамякіна. Гран-пры конкурсу атрымалі навучэнцы брэсцкай гімназіі № 4 Алена Зарэцкая і Сяргей Верамяюк за працу па аповесці Васіля Быкава «Мёртвым не баліць».

Падводзячы вынікі, старшыня журы, кандыдат філалагічных навук, дацэнт, загадчык кафедры беларускага літаратуразнаўства Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна Уладзімір Сенькавец адзначыў вялікую павагу канкурсантаў да беларускага слова.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

## Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**15 мая** — *на фестываль духоўнай паэзіі і песні, прысвечаны 430-годдзю праведнай Сафіі Слуцкай. Імпрэза адбудзецца на двары Храма праведнай Сафіі Слуцкай (вул. Казінца, 108). Пачатак а 13-й гадзіне.*

**16 мая** — *на літаратурнае свята ў Клуб творчай інтэлігенцыі пры Палацы культуры ветэранаў (вул. Янкі Купалы, 21). Пачатак імпрэзы а 15-й гадзіне.*

**17 мая** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Міхасём Пазняковым у СШ № 218 (вул. Ясеніна, 13). Пачатак у 13.30.*

**18 мая** — *у літаратурны клуб «Сябрына» пры гімназіі № 20 (вул. Адзінцова, 89) на творчую сустрэчу з пісьменнікамі. Пачатак у 15.15.*

**18 мая** — *у літаратурны клуб «Шчырасць» пры публічнай бібліятэцы № 22 (вул. Яна Чачота, 23) на творчую сустрэчу з маладымі паэтэсамі Кацярынай Роўда і Марынай Пашук (Наследнікавай). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**19 мая** — *на літаратурнае свята «Кніга гадуе чалавека» ў СШ № 9 (вул. Гедройца, 20) з удзелам паэтэс Яны Явіч і Алены Шчарбаковай. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**19 мая** — *на свята беларускай сучаснай паэзіі і песні ў Беларускую дзяржаўную акадэмію авіяцыі (вул. Убарэвіча, 77). Пачатак у 15.30.*

**19 мая** — *на творчы вечар паэтэсы Лізаветы Палеес у Дом Масквы (вул. Камуністычная, 86). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**19 мая** — *у паэтычны клуб «Парнас» пры публічнай бібліятэцы № 5 (вул. Казлова, 2) на вечар патрыятычнай паэзіі. Пачатак а 18-й гадзіне.*

**21 мая** — *у Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа (пр. Незалежнасці, 66а) на свята маладой паэзіі «Вершаваны дух часу» з удзелам паэтэс Маргарыты Латышкевіч, Кацярыны Массэ, Ганны Мартынчык. Пачатак у 17.30.*

## Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**17 мая** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай Тамарай Красновай-Гусачэнка ў Аршанскую цэнтральную бібліятэку (г. Орша, зав. Паштовы, 2). Пачатак у 11.00.*

## Гомельскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**17 мая** — *на вечар у літаратурнай гасцёўні маладых аўтараў «Вечныя рукапісы Міхаіла Булгакава», прымеркаваны да Года культуры, у Цэнтральную гарадскую бібліятэку імя А. І. Герцэна (г. Гомель, вул. Савецкая, 26). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**19 мая** — *на сустрэчу з айцом Савам (Мажукам) «Успамінаючы Пушкіна (Песні любові)» у межах цыкла «Кола чытання», прымеркаваную да Года культуры, у Цэнтральную гарадскую бібліятэку імя А. І. Герцэна (г. Гомель, вул. Савецкая, 26). Пачатак у 17.30.*

## Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**20 мая** — *на літаратурнае свята «Эліза Ажэшка: мяцежная душа» з удзелам пісьменнікаў Гродзеншчыны, прысвечанае 175-годдзю з дня нараджэння Элізы Ажэшкі, у Мастоўскую раённую бібліятэку (Гродзенская вобл., г. Масты, вул. Савецкая, 19а). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**21 мая** — *на паэтычны паядынак з удзелам творцаў Гродзеншчыны ў межах міжнароднай культурнай акцыі «Ноч музеяў» у сядзібе М. К. Агінскага (Гродзенская вобласць, Смаргонскі раён, аграгарадок Залессе). Пачатак а 18-й гадзіне.*

# Голас гучыць

Васіля Уладзіміравіча Гадульку (1946 — 1993), выдатнага беларускага паэта, тонкага, прачулага лірыка, успомняць у Літаратурным музеі Максіма Багдановіча 17 мая а 17-й гадзіне, дзе адбудзецца вечарына да 70-гадовага юбілею творцы. Ён стаў вядомым чытачу толькі пасля смерці. Адкрыў яго для ўсіх блізкі сябар і прызнаны ўжо калега па пяры, журналіст Васіль Сахарчук. Кнігі вершаў Васіля Гадулькі «Голас» і «Па-над сцежкай лёсу» пабачылі свет, калі аўтара ўжо не было сярод нас. У імпрэзе бярыць удзел беларускія літаратары, якія спрычыніліся да пасмяротнага выдання кніг вершаў Васіля Гадулькі.

**Таццяна БУДОВІЧ-БАРАДУЛЯ**

# Ад Мінска да Цукубы

## Нататкі з Першага міжнароднага навуковага кангрэса беларускай культуры

**Што прываблівае замежных даследчыкаў у беларускай культуры? Найперш — фальклор: песні, казкі, абрады не толькі адлюстроўваюць нацыянальную карціну свету, але і раскрываюць адметнасці іншых культур праз выкарыстанне параўнальнага метаду. Яшчэ адна актуальная тэма — этнакультурныя працэсы, гісторыя і сучаснасць беларускай дыяспары ў розных краінах свету. Звяртаюцца спецыялісты і да вывучэння беларускай мовы, літаратуры, архітэктуры. Шырокае абмеркаванне вынікаў навуковых даследаванняў адбылося падчас Першага міжнароднага навуковага кангрэса беларускай культуры, які прайшоў 5 — 6 мая.**

Больш за трыста даследчыкаў узялі ўдзел у навуковым форуме, у тым ліку спецыялісты з трынаццаці замежных краін. Праца кангрэса вялася ў пятнаццаці паралельных секцыях, якія былі прысвечаны гісторыка-культурнай спадчыне, фальклору, музыцы, тэатру, кінематографу, выяўленчаму і дэкаратыўна-прыкладному мастацтву ды інш. Вялікую ролю ў арганізацыі кангрэса адыгралі маладыя навукоўцы з Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Прадстаўнікі дзяржаўных структур у прывітальных словах нагадалі пра значнасць асэнсавання набыткаў беларускай культуры. Культура фарміруе дух нацыі, па нацыянальнай культуры народ пазнаюць у свеце, таму яе вывучэнне, захаванне і папулярызацыя — абавязковая ўмова паспяховага развіцця грамадства.

### ПРЫЯРЫТЭТЫ

Прагляд праграмы кангрэса падчас пленарнага пасяджэння дазволіў адзначыць шэраг цікавых фактаў. З улікам вялікай колькасці дакладаў можна было вызначыць, якія прадстаўнікі беларускай культуры найбольш прываблiваюць сучасных даследчыкаў. Чатыры даклады былі прысвечаны творчасці Івана Шамякіна, па тры даклады — творчасці Максіма Багдановіча і Васіля Быкава, працам мовазнаўцы і этнографа Яўхіма Карскага, этнографа і фальклaрыста Аляксандра Сержпутоўскага. Зацікавіла даследчыкаў творчасць Элізы Ажэшкі, Уладзіміра Караткевіча, Ніла Гілевіча і Альгерда Бахарэвіча — кожнаму з гэтых аўтараў было прысвечана па два даклады.

Згаданыя імёны прывабілі не толькі беларускіх, але і траіх замежных даследчыкаў. Дарэчы, у праграме канферэнцыі былі анансаваны даклады 65 гасцей — гэта амаль пятая частка.

### БЕЛАРУСКАЯ МОВА Ў ЯПОНІІ

Вялікае захапленне выклікаў даклад доктара філалагічных навук, прафесара Цукубскага ўніверсітэта Тасінобу Усуямы (Японія), агучаны аспіранткай Сіёры Кіясава. На выдатнай беларускай мове! Дакладчыца звярнулася да гісторыі беларуска-японскіх культурных узаемасувязей. Як высветлілася, у беларускай літаратуры японцаў найперш цікавіць тэма наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Першы твор беларускай літаратуры, перакладзены на японскую мову, — верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?», а самы чытаны сёння беларускі пісьменнік — Святлана Алексіевіч. Па-японску можна пазнаёміцца з творамі некалькіх дзясяткаў нашых аўтараў, але цяпер японцы могуць навучыцца чытаць іх нават у арыгінале!

Магчымасць вывучыць беларускую мову з'явілася дзякуючы распрацоўцы пачатковага курса беларускай мовы для японцаў. Першая частка дапаможніка «Спрабуйма!» выдадзена ў Цукубскім універсітэце. Аўтары дапаможніка — магістр міжнародных навук Сіёры Кіясава і доктар філалагічных навук, дацэнт кафедры сучаснай беларускай мовы Таццяна Рамза. Падручнік для японцаў стаў адным з першых дапаможнікаў для замежнікаў па вывучэнні беларускай мовы.

Курсы беларускай мовы на працягу пяці гадоў дзейнічаюць у Токіа. Большасць навучэнцаў — японцы, якія вывучылі беларускую мову ў нашай краіне і працягваюць удасканальваць яе на радзіме.

> *Першы твор беларускай літаратуры, перакладзены на японскую мову, — верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?», а самы чытаны сёння беларускі пісьменнік — Святлана Алексіевіч. Па-японску можна пазнаёміцца з творамі некалькіх дзясяткаў нашых аўтараў, але цяпер японцы могуць навучыцца чытаць іх нават у арыгінале!*

### КУЛЬТУРНЫЯ ЛАНДШАФТЫ

Японцы, якія размаўляюць па-беларуску, могуць вельмі ўразіць жыхароў беларускіх гарадоў. Падчас адкрыцця кангрэса была адзначана неабходнасць актыўнай працы ў распаўсюджанні ведаў пра Беларусь, бо за апошнія дзесяцігоддзі вырасла некалькі пакаленняў, якія слаба ведаюць гісторыю і культуру сваёй краіны. Беларусы схільныя да культурнай асіміляцыі, што засведчыла ў дакладзе вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута этналогіі і антрапалогіі РАН Рэгіна Грыгор'ева. Акрэсліваючы дэмаграфічны партрэт беларусаў Калінінградскай вобласці, гісторык адзначыла, што большасць падлеткаў, якія нарадзіліся ў змяшаных беларуска-рускіх сем'ях, лічаць сябе рускімі альбо маюць падвойную ідэнтычнасць і толькі ў адзінкавых выпадках адносяць сябе да беларусаў, што сведчыць пра невысокую рэзістэнтнасць беларускай культуры.

Вывучэнне сучаснай сацыякультурнай сітуацыі — абавязковая перадумова фарміравання культурнай палітыкі дзяржавы. Доктар філасофскіх навук, прафесар Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта Валянціна Дыянава прадставіла калегам такую стратэгію вывучэння культурнай спадчыны, як транскультурацыя. Тэрмін быў уведзены кубінскім антраполагам Фернанда Оцісам для апісання феноменаў зліцця і збліжэння культур. Даследчыца таксама звярнулася да канцэпцыі культурнага ландшафту, якую плённа распрацоўваюць расійскія навукоўцы. Ключавы момант у вызначэнні сутнасці культурнага ландшафту — характар узаемадзеяння і ўзаемаўплыву культуры і прыроды. Вызначэнне ўплыву культурнага ландшафту на творчасць мастака магчымае, нават калі творца не ідэнтыфікаваў сябе з карэнным насельніцтвам — як у выпадку з многімі культурнымі дзеячамі Усходняй Еўропы XVIII — пачатку XX стагоддзяў.

### ПРАБЛЕМА БІЛІНГВІЗМУ

Адзін з галоўных складнікаў нацыянальнай культуры — гэта нацыянальная мова, якая павінна быць запатрабаванай як сродак зносін. Праблема білінгвізму ў сучаснай Беларусі знайшла адлюстраванне ў шасці дакладах сесіі «Нацыянальная мова». Падчас пленарнага пасяджэння даклад, прысвечаны блізкароднаснаму беларуска-рускаму двухмоўю, прачытаў прафесар Аляксандр Лукашанец, першы намеснік дырэктара па навуковай рабоце Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі.

«Праблема захавання і развіцця нацыянальных моў стаіць па-рознаму для розных культур, — падкрэсліў Аляксандр Аляксандравіч. — Сучасная культура Беларусі мае складаную структуру, і беларуская мова ў розных сегментах выяўлена па-рознаму. Беларуская мова суадносіцца з уласнабеларускай (нацыянальна маркіраванай) часткай культурнай прасторы, а руская мова прэзентуе іншанацыянальную (інтэрнацыянальную) частку. Шырокае выкарыстанне рускай мовы пашырае культурную прастору асобы, але стварае небяспеку для захавання нацыянальнай спецыфікі беларускай культуры».

Па словах прафесара, культурныя стэрэатыпы, якія датычаць беларускай і рускай моў, змяніліся на працягу апошніх дзесяцігоддзяў. Беларуская мова ўжо не ўспрымаецца як мова вясковай, традыцыйнай культуры і ўсё часцей ацэньваецца як перспектыўная і прагрэсіўная. Аднак больш шырокаму выкарыстанню беларускай мовы замінае недастатковая моўная кампетэнцыя многіх насельнікаў краіны. Магчымыя меры для пашырэння сферы ўжывання беларускай мовы, якія згадвае Аляксандр Лукашанец, — гэта забеспячэнне кожнаму права атрымліваць паслугі на аптымальнай для яго мове, распрацоўка матэрыяльнага стымулявання і прэферэнцый для беларускамоўных работнікаў і творчых калектываў, фарміраванне беларускамоўнага культурнага поля.

Канкрэтная распрацоўка гэтых мер падаецца магчымай пры ўліку практычнага досведу нашых калег. Напрыклад, фарміраванне беларускамоўнага культурнага поля можа прадугледжваць стварэнне зон беларускага маўлення, адмысловай сеткі забаўляльных дзіцячых комплексаў, павелічэнне беларускамоўнай рэкламы, у тым ліку сацыяльнай.

Праграма кангрэса прадугледжвала даклады з прыкладным значэннем; адной з задач форуму быў удзел выступоўцаў у «распрацоўцы і ўдасканаленні сучаснай цэласнай культурнай стратэгіі». Тым не менш мерапрыемства атрымалася больш навуковым, чым практычным. Абмеркаванне канкрэтных захадаў па пашырэнні сферы ўжывання беларускай мовы і вырашэнні іншых праблем у сферы культуры застаецца справай на будучыню, і ўсведамленне іх актуальнасці — добры падмурак магчымых здзяйсненняў.

**Юлія ШПАКОВА**




Фота Кастуся Дробава.

# Міхась Башлакоў: «Пісьменніка па-за часам і прасторай не бывае»

**У творчасці, у жыцці, у адносінах да сябе і да іншых Міхась Башлакоў непрымірымы да несправядлівасці, абыякавасці, бездухоўнасці. Ён перакананы: паэт не мае права быць несумленным і раўнадушным. У сваю шэсцьдзясят пятую вясну, на якую прыпала і 30-годдзе Чарнобыльскай трагедыі, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, удзельнік ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС адказаў на пытанні нашага карэспандэнта.**

**— Паэт-пейзажыст, паэт-грамадзянін, паэт-філосаф… Да каго вы сябе адносіце?**

— Паэзія — такая катэгорыя, у якой быць толькі паэтам-пейзажыстам, паэтам-лірыкам ці паэтам-філосафам вельмі складана. Нават самы вытанчаны, акварэльна-пейзажны верш вымагае выкарыстання, няхай і недзе падспудна, у глыбіні радкоў і строф, такіх выяўленчых сродкаў, такіх эмоцый і акцэнтаў, што ў нейкай ступені дае філасофскае і грамадзянскае гучанне.

Што датычыць асабіста мяне, то імкнуся нават праз лірызм і меладычнасць радка давесці паэтычнае слова да грамадзянскага гучання. Галоўнае, каб душа чытача ўскалыхнулася. Прымусіць яго стаць тваім аднадумцам сёння даволі складана. Не сакрэт, што наша літаратура за апошнія два дзясяткі гадоў у многім страціла свайго чытача — таго ранейшага, удумлівага, адукаванага і нераўнадушнага. Дарэчы, як і пісьменніка… Усё часцей, на жаль, мы сустракаемся на старонках літаратурных выданняў і кніг з банальнасцю, пошласцю, бязлікасцю, шэрасцю і нават амаральнасцю…

У мяне розныя творы: ад эпічных палотнаў — такіх, як «Лілея на цёмнай вадзе» ці араторыя «Шлях», дзе болю, трывогі, горычы, грамадзянскасці і патрыятызму хоць адбаўляй, — да вытанчана-лірычных вершаў. Тэматычна адно другому не шкодзіць, а, наадварот, толькі дапаўняе і пашырае дыяпазон…

**— Час, паэт, слова… Як, на вашу думку, узаемазвязаны гэтыя паняцці?**

— Пісьменніка па-за часам і па-за прасторай не бывае. Адасобіцца ад жыцця грамадства проста немагчыма. І таму кожны паэт — гэта голас ці рупар свайго часу. Нават калі паэт самы вытанчаны, «завоблачны» лірык. Іншая справа, як гэты паэт адгукаецца, рэагуе на пэўныя з'явы і праблемы. Сумленна, а значыць шчыра і праўдзіва, ці ўгодліва, а значыць няшчыра і несумленна… Быць паэтам — вялікая адказнасць перад часам, літаратурай, нашчадкамі…

Што такое паэзія? Гэта музыка душы. І, перш за ўсё, натхнёнае, узнёслае, шчырае і сумленнае слова. Без слова, а слова — гэта мова, няма паэта, няма паэзіі, няма нічога. Мова — гэта ўсё. Таму кожная свядомая нацыя клапоціцца пра сваю родную мову.

Дваццаць першае стагоддзе — час самых цесных, шырокіх кантактаў і культурных зносін паміж краінамі, народамі і людзьмі. І кожны адукаваны чалавек сёння, лічу, проста абавязаны ведаць адну ці некалькі замежных моў. Але калі ён не ведае ці цураецца роднай мовы, то не толькі не можа лічыцца адукаваным і культурным чалавекам, а становіцца ў такім выпадку падобным да дрэва з пашкоджанымі ці падсечанымі каранямі, якое ў хуткім часе без жыватворнай глебы засыхае і гіне.

Без мовы няма нацыі, няма народа, няма нацыянальнай дзяржавы. Тэма роднай мовы, яе багацця, чысціні, сферы ўжывання, беражлівага ці раўнадушнага стаўлення да яе вельмі тонкая і балючая для любога народа, нават самага вялікага, бо мова ёсць душа народа. І да таго, як мы ставімся да роднай мовы, з любоўю і клопатам ці, наадварот, бяздушна, пагардліва і абыякава, залежыць будучыня.

А што мы можам сказаць пра наша стаўленне да роднай мовы? І які яе стан у грамадстве?.. Кожны сапраўдны паэт, сумленны паэт не можа і не мае права абыходзіць маўчаннем у творчасці гэтае вельмі балючае для нас, беларусаў, вельмі важнае і лёсавызначальнае пытанне. Калі ты маўчыш ці робіш выгляд, што гэта неістотна, што табе гэта ўсё роўна, — у такім выпадку ты не маеш маральнага права называцца паэтам, ты не адпавядаеш гэтаму высокаму званню. Ты проста маўчальнік і палахлівец, што, між іншым, мяжуе са здрадай.

Наша грамадства стаіць на мяжы, небяспечнай: калі мы не асэнсуем гэтага, нічога не зменім да лепшага, а будзем пагаршаць гэты працэс, то проста перастанем існаваць як нацыя ў гэтым вялізным, глабальным свеце…

**— Мне запомнілася ваша кніга лірыкі «Віно адзінокіх». Што папярэднічала яе напісанню? Ці ёсць перадгісторыя ў назвы?**

— Кніга лірыкі «Віно адзінокіх» выйшла пяць гадоў таму ў тагачасным выдавецтве «Літаратура і Мастацтва». Лічу, што гэта зборнік маіх лепшых лірычных вершаў. Пішу вершы з юнацтва. Жыву паэзіяй. Не, не ў матэрыяльным плане. На жаль… Пішучы вершы і нават выдаючы кнігі штогод, на ганарары не пражывеш… Што значаць у наш час нейкія пяць ці шэсць мільёнаў? За кнігу вершаў, за кнігу, якую ты пісаў усё жыццё?.. Творчая праца — гэта праца розуму і душы, праца вельмі напружаная, адказная, да зносу душы. Такая праца павінна і аплачвацца адпаведна…

А ў нас грамадства ўжо прызвычаілася, што пісьменнік павінен усё рабіць бясплатна… Пісаць кнігі і выдаваць іх ледзьве не за свой кошт… Выступаць усюды, дзе толькі можна і няможна…

Што да кнігі «Віно адзінокіх»… У мяне ёсць аднайменны верш, напісаны ў 2008 годзе на маёй малой радзіме — у ваколіцах роднай станцыі Церуха. Гэты верш — пра паэзію, якую разумеюць, адчуваюць і цэняць на самай справе адзінкі. Падкрэсліваю: адзінкі... Разумець, тонка цаніць паэтычнае слова дадзена не кожнаму. Гэта таксама талент. Патрэбны веды і прыроднае адчуванне. А ў каго яны ёсць? У многіх? На жаль, не. Вельмі нямногія чытачы маюць тонкі паэтычны густ. Як і тыя, хто піша вершы, дарэчы… У нашай літаратуры вельмі шмат вершатворцаў, літаратараў, імітатараў і так мала паэтаў. Сапраўдных паэтаў. З моцнай энергетыкай, са шчырым, пранікнёным пачуццём, інтанацыйна адметных, са сваім почыркам. Не трэба блытаць паэзію з падробкай!

**— На пачатку гэтага года вы пазнаёмілі чытачоў «ЛіМа» з урыўкамі з вашага новага твора — араторыі «Шлях». Араторыя, увогуле, тэрмін музычны. Чаму жанр свайго твора вы вызначылі менавіта так?**

— Працу над араторыяй «Шлях» завяршыў летась. Твор немалы па аб'ёме — 2300 радкоў. Гэта лірыка-эпічная рэч патрыятычна-грамадзянскага напаўнення і гучання. Там многа вельмі лірычнага, многа вострага і балючага. Многа радкоў, якія напісаны, па выказванні Віктара Карамазава, «на хвалі, рызыкоўнай для сэрца». Пра твор пачуў нямала добрых слоў…

Нядаўна я завяршыў фарміраванне новай кнігі паэзіі «Тры лікі любові», якую складуць мае лепшыя творы: чатыры паэмы, араторыя «Шлях» і вершы. Араторыя — тэрмін сапраўды музычны… І ў маім творы, у адрозненне ад паэмы, напісанай звычайна ў традыцыйным ключы, дзе ад пачатку і да канца адзін рытм і адна танальнасць, пастаянна мяняецца і рытм, і танальнасць. Радкі араторыі гучаць то вельмі сцішана, да шэпту, то ўзвышаюцца да набатнасці…

**— Споўнілася трыццаць гадоў, як здарылася аварыя на ЧАЭС. Якое адлюстраванне знайшла гэтая трагедыя ў вашай творчасці?**

— Аварыя на ЧАЭС здарылася якраз напярэдадні майго 35-годдзя. Яшчэ і таму катастрофа не магла не адгукнуцца і ў маёй творчасці, тым больш што я бачыў наследкі гэтай аварыі знутры — вельмі многа ездзіў па чарнобыльскай зоне. Сустракаўся з людзьмі, выступаў. Толькі ў найбольш пацярпелых раёнах у мяне было звыш дзвюх тысяч літаратурных выступленняў і сустрэч. Многіх тых вёсак, дзе я некалі выступаў, ужо няма. Яны пахаваны… Чарнобыльскую паэму «Лілея на цёмнай вадзе» пісаў і ў тых шматлікіх паездках па зоне, і ў Гомелі, дзе жыў на той час. Яна мела больш як сем варыянтаў і рэдакцый.

Чарнобыльская тэма мяне доўга не адпускала. І нават пасля таго, як паэма выйшла ў 1994 годзе асобным выданнем… Апошнюю кропку ў творы я паставіў толькі ў 2000-м, а ў 2001 годзе поўны і канчатковы яго варыянт быў надрукаваны ў маёй кнізе «Пяро зязюлі падніму». Дарэчы, гэта, лічу, адна з самых лепшых і знакавых для мяне кніг.

**— Якія жыццёвыя і літаратурныя тэмы хвалююць вас сёння? Чаго, на ваш погляд, бракуе сучаснаму літаратурнаму працэсу і, у прыватнасці, айчыннай паэзіі?**

— Спынюся на некаторых аспектах, вельмі важных, як мне здаецца, не толькі для літаратуры, але і для грамадства. Дзесяць гадоў таму быў створаны Саюз пісьменнікаў Беларусі. Такім чынам, у нашай краіне сталі існаваць дзве пісьменніцкія арганізацыі. А беларуская літаратура ў нас адна. І яна непадзельная. Як непадзельная наша родная Беларусь. Беларуская літаратура належыць народу, нашай любай Бацькаўшчыне…

Не раз падымаў пытанне, што ў нас у Беларусі няма вялікага нацыянальнага рэспубліканскага свята паэзіі, як, скажам, у расіян ці ўкраінцаў. Нехта запярэчыць мне: а хіба не праводзіцца ў Маладзечне Нацыянальны фестываль песні і паэзіі? Так, праводзіцца. Але гэта перш за ўсё фестываль песні. Для спевакоў і маладых выканаўцаў. А добрай, душэўнай песні няма і не можа быць без верша, шчырага, інтанацыйнага…

Амаль тое ж самае адбываецца і са святам паэзіі Янкі Купалы ў Вязынцы, якое праводзіцца намаганнямі Маладзечанскага райвыканкама і Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы. Дзякуй ім, яны робяць гэта, увогуле, добра. Але ж Купала для беларусаў — як Пушкін для рускіх, Міцкевіч для палякаў ці Шаўчэнка для ўкраінцаў. Гэта нацыянальны гонар нашай краіны. А статус рэспубліканскага гэтае свята набывае толькі тады, калі адзначаюцца юбілеі паэта.

Што яшчэ мяне як паэта хвалюе сёння, дык гэта выданне кніг. Пытанняў сапраўды неадкладна — на карысць літаратуры…

**— Міхась Захаравіч, без чаго, на ваш погляд, не можа адбыцца паэт?**

— Вядома, без сумлення. А на другім месцы — талент і творчыя здольнасці. Без таленту паэта не бывае ўвогуле. Калі ты Паэт, то не маеш права мяняць свае погляды, перакананні, прынцыпы, як той флюгер, у залежнасці ад ветру і змены надвор'я… Інакш ты не Паэт.

**Яна ЯВІЧ**



### Даведка «ЛіМа»

*Міхась Захаравіч Башлакоў нарадзіўся 27 красавіка 1951 года ў пасёлку Станцыя Церуха (цяпер вёска Баштан) Гомельскага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і чыгуначніка. Скончыў Грабаўскую сярэднюю школу (1967) і гісторыка-філалагічны факультэт Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1973). Настаўнічаў. З 1985 па 1990 год працаваў карэспандэнтам-арганізатарам Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў СССР па Гомельскай вобласці. З 1991 года — у Міністэрстве інфармацыі, дзе займаўся падрыхтоўкай і выданнем гісторыка-дакументальных хронік «Памяць». Член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аўтар кніг паэзіі «Касавіца», «Начны паром», «Дні мае залатыя», «Як слёзы горкія Айчыны…», «Матчыны грыбы перабіраю», «Пяро зязюлі падніму», «Нетры», «Палын», «Лілея на цёмнай вадзе», «Віно адзінокіх».*

# Талент, спачылы ў гета

## Гісторыя Сары Каган

**Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны ў Мінску жыла пісьменніца, якой належаць радкі:**

***«Радзіма! Квет нязнаных цудаў!***
***Дачка твая, заўжды і ўсюды***
***Зямлю тваю я славіць буду***
***І сонца яснае тваё.***
***Табе, што вочы мне адкрыла,***
***Сваімі сокамі ўспаіла***
***І, як дзіця, мяне ўзрасціла,***
***Належыць ўсё жыццё маё!»***

**Ва ўзросце 46 гадоў у ліпені 1941 года Сара Каган загінула ў засценках Мінскага гета.**

Рашэнне аб стварэнні Мінскага гета было прынятае ў самым пачатку вайны. У данясенні шэфа паліцыі бяспекі 24 ліпеня 1941 года ў Берлін гаворыцца: «У Мінску ліквідаваныя ўсе пласты яўрэйскай інтэлігенцыі: настаўнікі, прафесары, адвакаты і гэтак далей, выключаючы медыцынскіх работнікаў. Для пачатку ліквідавана 1050 яўрэяў. Астатнія штодня дастаўляюцца на экзекуцыю». Ёсць падставы выказаць здагадку, што пісьменніца трапіла ў гэтую тысячу пяцьдзясят.

Сара Каган нарадзілася ў вёсцы Максімавічы ў сям'і служачага Рувіма Левіна, як пазначана ў даведніку «Беларускія пісьменнікі (1917 — 1990 гады)». Яна была шостым з дзевяці дзяцей. Акрамя Левіных у вёсцы жылі яшчэ тры яўрэйскія сям'і: Пейлата-каваля, Залмана-краўца, Элі-Меіра-шаўца.

Пляменнік Сары Ісаак Плоткін успамінае: «У беднай вёсцы Максімавічы пражывала чалавек 200 — 300. Не было тут ні школы, ні лекара, ні нават "хвершала"».

Жыццё маленькай Сары нічым не адрознівалася ад ладу жыцця вясковых дзяцей, якіх з ранняга ўзросту далучалі да працы. Яна дапамагала бацькам выконваць хатнія справы, пасвіла гусей, ганяла скаціну ў поле, даглядала агарод, наймалася ў нянькі. Як піша яе пляменнік, «Сара ў школе ніколі не вучылася. Яна толькі прайшла абавязковыя для ўсіх яўрэйскіх дзяцей заняткі па навучанні самым элементарным асновам яўрэйскай граматы, малітвам, асновам закона Божага. Чытаць і пісаць па-руску навучылася самастойна, калі была дарослай».

Дом, у якім жыла сям'я Рувіма Левіна, дастаўся ім у спадчыну ад продкаў. Але, жывучы ў вёсцы, сям'я не мела права валодаць зямлёй і нават арандаваць яе: магла толькі дапамагаць сялянам у апрацоўцы зямлі і за гэта атрымліваць частку ўраджаю. Сталыпінская рэформа 1906 — 1909 гадоў зусім перавярнула жыццё сельскіх яўрэяў: ім прадпісвалася перасяляцца ў мястэчкі і гарады. Так сям'я Сары вымушаная была пакінуць наседжанае месца і з'ехаць куды вочы глядзяць. Першым прытулкам стала тупіковая станцыя Градзянка (цяпер Асіповіцкі раён).

Тут прайшло юнацтва Сары. Бацька яе, хутчэй за ўсе, працаваў у лясной гаспадарцы. У тыя гады ўсходняя Беларусь уяўляла сабой суцэльны леспрамгас. Лес пілавалі, валілі, сплаўлялі па рэках. У кожным больш-менш буйным паселішчы былі дрэваапрацоўчыя камбінаты, а ў кожным мястэчку — лесапільны завод.

Ісаак Плоткін успамінае: «Пасталелыя дзеці раз'язджаліся хто куды. Сару лёс прывёў у Парычы, дзе яна выйшла замуж за Сымона Кагана, які служыў там на лесасплаве. Трох сыноў Вульфа, Лёву і Міхаіла яна нарадзіла ў 1919, 1921 і 1924 гадах».

У пошуках лепшай долі і выратавання ад галечы і голаду сям'я Сары ў 1921 годзе пераязджае ў Бабруйск. Яе муж Сымон Каган уладкаваўся на склад трэсту «Лесбел», а Сара — у дзіцячы сад на дрэваапрацоўчым камбінаце. Дакладна невядома, кім яна працавала, але ёсць падставы меркаваць — выхавальнікам. Як успамінае яе брат, «сваю працу Сара вельмі палюбіла. Праявіла шмат выдумкі. Яна складала для дзяцей вершы, песенькі, інсцэніроўкі...». Пэўна, якраз у гэтыя гады пачаў выяўляцца прыроджаны талент пісьменніцы. Яна актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці камбіната, дапамагае выпускаць насценгазету, дзе публікуе свае куплеты і нататкі. Кіраўніцтва прадпрыемства заўважыла талент маладой актывісткі і накіравала на курсы павышэння пісьменнасці. Але да прызнання яе літаратурнага таленту было яшчэ далёка. Можна толькі сказаць, што вытокі яе літаратурнага даравання — з сям'і.




«Неабходна адзначыць такую асаблівасць сям'і бацькоў Сары. Жывучы ў глухой вёсцы Максімавічы і толькі зрэдку сустракаючыся са сваімі сваякамі і знаёмымі, раскіданымі па розных вёсках і мястэчках, яны падтрымлівалі зносіны з імі шляхам рэгулярнай перапіскі, — згадвае І. Плоткін. — На мове ідыш яны дзяліліся адзін з адным не толькі навінамі аб нараджэннях, шлюбах, смерці, але і сваімі разважаннямі аб жыцці, аб падзеях вялікіх і малых, аб прыродных з'явах. Лісты гэтыя часам былі прасякнуты сапраўднай паэзіяй і напісаныя часцяком у рыфму. Было нават нешта накшталт неафіцыйнага спаборніцтва ў тым, хто напіша больш цікавы і дасціпны ліст. Тон у гэтым задавала маці Сары Басшэва Левіна, нягледзячы на сваю малапісьменнасць, нават у яўрэйскай мове. А старэйшая сястра Сары Двейра Плоткіна праявіла ў гэтай пісьмовай творчасці асаблівы талент. Яна пісала не толькі рыфмаваныя лісты, але і вершы, нарысы, замалёўкі». Схільнасць да літаратурнай дзейнасці выяўлялі і іншыя браты і сёстры Сары.

Пасля курсаў павышэння пісьменнасці Сара Каган перайшла на працу ў бібліятэку, якую з часам узначаліла. Тут яна не толькі папаўняла веды мастацкай літаратуры, але і стала актыўным удзельнікам літаратурнага гуртка.

У 1928 годзе часопіс «Полымя рэвалюцыі» апублікаваў першы верш Сары Каган «Радзіма», перакладзены на беларускую мову Алесем Жаўруком:

*...Люблю я шумны бор і гаці,*
*Палі, узгоркі, сенажаці —*
*Тут нарадзіла мяне маці,*
*Тут з песняй гушкала заўжды.*
*Тут дзецьмі мы грыбы збіралі,*
*Адсюль нас вечна праганялі,*
*Тут на пяску мае у далі*
*Пралеглі першыя сляды...*

У дзесяці страфах 34-гадовая паэтка наноў пражывае сваё цяжкое дзяцінства, з аптымізмам і надзеяй глядзіць у заўтрашні дзень:

*...Радзіма! Знік той час бяздольны!*
*Як добра мне ў палях раздольных*
*Тваім паветрам дыхаць вольным*
*І слухаць шэлест спелых ніў.*
*Хачу гарэзіць зноў, смяяцца,*
*Вясёлай песняй заліваццa.*
*Не томіць рук сягоння праца —*
*У целе новых сіл прылію...*

Творчае натхненне не пакідае пісьменніцу. Яе вершы ахвотна друкуюць газеты і літаратурна-мастацкі часопіс «Штэрн». Як удзельніца літаратурнага гуртка яна добра знаёмая з беларускімі літаратарамі — Міхасём Лыньковым, галоўным рэдактарам раённай газеты «Камуніст», Васілём Віткам, які пасля заканчэння Слуцкай прафтэхшколы працаваў на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце — там жа, дзе працаваў муж Сары і нейкі час яна сама. Малады настаўнік Пімен Панчанка і Сяргей Грахоўскі таксама пачыналі працаваць на тым жа Доку. У такім асяроддзі талент паэтэсы не мог не раскрыцца напоўніцу.

У 1934 годзе выходзіць з друку першы зборнік вершаў Сары Каган на ідыш «Ян вэг» («На шляху»). Падчас літаратурнага вечара, дзе прысутнічалі многія вядомыя пісьменнікі, Сара прачытала новую паэму «Тры Лявонiхі». Твор спадабаўся публіцы, атрымаў высокую ацэнку калег і літаратурных крытыкаў, быў апублікаваны ў часопісе «Штэрн», а ў 1938 годзе ўвайшоў у зборнік вершаў.

Неўзабаве пасля гэтага Сару Каган прынялі ў Саюз пісьменнікаў БССР і прапанавалі пераехаць у Мінск, дзе яе падтрымалі Змітрок Бядуля, Міхась Лынькоў, Ізі Харык. Яны бачылі ў ёй моцнага і самабытнага літаратара, наракалі вялікую будучыню. Хто мог ведаць, што планам не наканавана ажыццявіцца?..

З 1935 года сям'я Сары жыве ў Мінску. Пісьменніца працуе ў бібліятэчным калектары, паступае на філалагічны факультэт педагагічнага інстытута, шмат піша. Гэтыя гады вельмі плённыя ў творчым плане. Адзін за другім у 1938 годзе выходзяць зборнікі вершаў «Майн геймланд» («Мая Радзіма») і прозы «Ды эрштэ прэміе» («Першая прэмія»), а ў 1940-м — зборнік вершаў «Унзэрэ мэнтшун» («Нашы людзі»), празаічная кніга «Апавяданні» на беларускай мове ў перакладзе Змітрака Бядулі. Многія СМІ, у тым ліку часопісы «Полымя рэвалюцыі», «Работніца і сялянка», публікуюць творы Сары Каган. У 1941 годзе асобным выданнем выходзіць аповесць «Дэр Фідлер» («Скрыпач»).

Літаратурныя крытыкі Г. Разіна і А. Срэбны адзначаюць, што мова літаратурных твораў Сары Каган вельмі багатая і разам з тым простая, даступная, лёгка ўспрымаецца. Пра гэта ж піша ў сваіх успамінах Ісаак Плоткін. Ён адзначае, што Сара атрымлівала шмат лістоў ад прыхільнікаў яе таленту, артысты ўключалі творы пісьменніцы ў свой рэпертуар. У прыватнасці, Клара Юнг чытала са сцэны ўрыўкі з паэмы «Тры Лявонiхі». Вядомая ў свеце артыстка аперэты Хал-Рыся Маркаўна Шынколіцэр у межах Дзяржаўнага аб'яднання эстрады і цырка ў 1925 годзе стварыла групу аперэты, якая мела поспех у краінах Еўропы і Амерыкі, і ў рэпертуары артыстаў таксама былі творы Сары. Можна толькі выказаць здагадку, якога поспеху дасягнула б таленавітая Сара, калі б не вайна...

Апошнія месяцы і дні жыцця Сары Каган і яе сям'і былі жудасныя. Як толькі нямецкія войскі занялі Мінск, пачаўся тэрор. Насельніцтва горада не было праінфармаванае пра сітуацыю на фронце. Улады тэрмінова эвакуіраваліся, пакінуўшы жыхароў горада і тысячы бежанцаў на волю лёсу і, як аказалася, на расправу фашыстам.



«Калі пачалася вайна, з Сарай жыў яе малодшы 17-гадовы сын Міша. Старэйшы Вульф-Валодзя быў студэнтам 5 курса Ленінградскага горнага інстытута, сярэдні сын Лёва памёр яшчэ ў 1937 годзе ад запалення лёгкіх, муж быў у камандзіроўцы. З самай раніцы Сара і Міша пайшлі ў горад па справах, дзе і напаткала іх страшная вестка пра вайну. Увесь дзень яны бегалі па горадзе ў пошуках адно аднаго. Калі знайшліся і вырашылі пакінуць Мінск, то было ўжо позна: усе шляхі былі перакрытыя нямецкімі аўтаматчыкамі і кулямётчыкамі на матацыклах...» (І. Плоткін).

Сотні тысяч беларускіх грамадзян розных нацыянальнасцей бясследна зніклі ў полымі саракавых. Сярод іх — Сара Каган. Яе старэйшы сын Валодзя пайшоў добраахвотнікам у Ленінградскае апалчэнне. Восенню 1941 года, калі Ленінград знаходзіўся ў блакадным кальцы, юнака вярнулі ў інстытут для здачы экзаменаў і атрымання дыплома. У тую страшную зіму ён памёр ад голаду.

Абставіны смерці мужа невядомыя. Можна толькі выказаць здагадку, што ён уступіў у партызанскі атрад. Справядліва адзначыць, што яўрэйскі народ з першага дня вайны пачаў весці барацьбу супраць акупантаў. У Вільні, Каўнасе, Мінску ствараліся групы, якія вялі падпольную барацьбу. Супраціўленне дасягнула апагею падчас паўстання ў Варшаўскім гета. Нехта падлічыў, што ў працэнтных адносінах да колькасці кожнай нацыянальнасці, якая брала ўдзел у баях Вялікай Айчыннай вайны, воінамяўрэям належыць трэцяе месца пасля рускіх і асецінаў. На жаль, яўрэйскае супраціўленне мала вывучана, а многія дакументы, якія датычацца партызанскіх атрадаў, па-ранейшаму засакрэчаныя.

Трагічна абарвалася жыццё старэйшага брата Сары Якава Левіна. Разам з жонкай Эстэр і трыма дзецьмі ён загінуў у мінскім гета. Іншыя браты Сары, кандыдат юрыдычных навук Б. Левін і кандыдат эканамічных навук Л. Левін, жылі ў Маскве. У 1975 годзе яны звярнуліся да Івана Шамякіна ў Праўленне саюза пісьменнікаў БССР і прасілі дапамогі ў вяртанні з нябыту імя сястры. Дзякуючы іх намаганням і ўдзелу Шамякіна імя Сары Каган унесенае ў энцыклапедыю і даведнікі беларускіх пісьменнікаў. Але біяграфія мае яшчэ шмат белых плям.

На жаль, не толькі ад дружнай і вялікай сям'і Сары Каган нікога не засталося — адышлі ў нябыт і многія яе творы. Тое ж, што захоўвацца ў галоўнай бібліятэцы Беларусі — газетныя і часопісныя публікацыі ды адзінкавыя экзэмпляры кніг, нататкі літаратурных крытыкаў, — дае магчымасць пазнаёміцца з яе творчасцю, зразумець пісьменніцу.

Імёны і біяграфічныя звесткі мільёнаў знішчаных яўрэяў захоўваюць тыя, хто выжыў, і члены іх сем'яў. Лісты паказанняў сведак сабраныя ў Залі імёнаў і часта з'яўляюцца адзіным помнікам ахвярам. Там, сярод іх, — ліст Сары Каган.

**Сяргей ШЧАПКО,**
**Аліна СУДНІК**

# У краі тым, за Сінімі Брадамі...

Ён сышоў ад нас у росквіце творчых сіл амаль што чвэрць стагоддзя таму. Пакінуў багатую літаратурную спадчыну — дзесяць кніг, апошняя з якіх, зборнік лірыкі «Гарынь», выйшла пасля смерці паэта. Тонкі, эмацыянальны творца, верны сын Берасцейшчыны, Міхась Рудкоўскі мог бы адзначыць у сёлетнім красавіку 80 гадоў.

Першы зборнік Міхася Рудкоўскага пабачыў свет у 1963 годзе. Кніга так і называлася — "Першыя вёрсты". Яна адразу была заўважаная як майстрамі слова, так і аматарамі паэзіі. Ці не таму сярод літаратараў дый сяброў паэта ўкаранілася думка, што Міхась Рудкоўскі прыйшоў у літаратуру ў пачатку 60-х гадоў?.. Калі зыходзіць з часу з'яўлення зборніка-першынца, так і ёсць. Аднак варта заўважыць, што яшчэ задоўга да выхаду кнігі ў М. Рудкоўскага былі публікацыі ў часопісе «Маладосць», газетах «Чырвоная змена», «Заря», а найперш — у ганцавіцкай «Сялянскай праўдзе» (пазней «Савецкае Палессе»), якая блаславіла паэта-пачаткоўца ў творчую дарогу, апублікаваўшы падборку ягоных вершаў («Успаміны», «Восень» і інш.). І было гэта ў 1958 годзе. Дарэчы, узначальваў тады рэдакцыю газеты вядомы журналіст, улюбёны ў нашае Палессе краязнавец і пісьменнік Васіль Праскураў, які пазней стане літаратурным настаўнікам, дарадцам і верным сябрам таленавітаму палешуку.

Калі ж унікнуць у справу глыбей, можна смела заключыць, што да прыгожай паненкі Паэзіі Міхась наблізіўся яшчэ раней. «Спробу складаць вершы будучы паэт зрабіў у чацвёртым класе. Некалькі вершаў былі надрукаваны на старонках газеты «Піянер Беларусі», — піша яго малодшая сястра Ірына.

Другі зборнік з адметнай і сімвалічнай для палескага краю назвай «Сінія Брады» (1967) Уладзімір Калеснік — таксама настаўнік і апякун Рудкоўскага — назаве «пашпартам мастацкай сталасці аўтара». Пасля яго выхаду быў прызнаны літаратурны прафесіяналізм і творчы дар паэта. Хутка Міхася Рудкоўскага прынялі ў Саюз пісьменнікаў СССР. Дарэчы, у той час ён быў першым «прафесійным» паэтам на Ганцаўшчыне і доўгі час (пасля сыходу з жыцця ў 1957 годзе Міколы Засіма) заставаўся адзіным членам Саюза пісьменнікаў СССР на Брэстчыне.


Юны паэт Міхась Рудкоўскі.

Наступныя свае зборнікі паэт таксама назваў удала, ёміста: «Позвы» (1971), «У краі тым…» (1975), «Векавечная Бацькаўшчына» (1976), «Трыгор'е» (1981), «Засцярога» (1984), «Залатазвон» — аднатомнік выбранай лірыкі (1986), «Да пребудешь ты в мире всегда!» (1990, Масква, выдавецтва «Советский писатель» у перакладзе Сяргея Красікава). І апошні, пажыццёвы, зборнік «Гарынь», выйшаў у 1992 годзе. Сігнальны яго экзэмпляр паэт яшчэ патрымаў у руках, але прачытаць ужо не змог.

Міхась Рудкоўскі быў прыроджаным мастаком, узнёслым рамантыкам і нястомным, глыбакадумным творцам. Паэзія яго прыцягальная, запамінальная, празрыстая, бы крынічная вада ў яго родных Сініх Брадах; крылатая, як урачысты залатазвон над Востраўскім храмам у роднай вёсцы паэта.

У творчасці М. Рудкоўскага ясна прасочваецца і глыбокі роздум, і душэўная трывога, і сыноўняя заклапочанасць за лёс Айчыны. Ён павучальна прамаўляе да роднага сына:

*Ўдыхаем поле, луг і лес.*
*А сонца ў росах грае, грае...*
*Глядзі, сынок, глядзі, Алесь:*
*Перад табою — родны краю.*

*Каб так яго ты палюбіў,*
*Як прадзед, дзед яго любілі,*
*Я за цябе б спакойны быў*
*Нат і ў магіле.*

А якая бездакорная мелодыка, якая дакладнасць апісання ляснога малюнка!..

*Жыву ў лясах*
*глыбокіх*
*і прасторных,*
*Пад клёнамі*
*адвечнымі жыву.*
*Цярушыць поўнач*
*пыл высаказорны,*
*На твар задумны*
*мой, на галаву.*

*Усё тут проста,*
*мудра, суразмерна.*
*Я свой тут, нібы клён,*
*я свой, бы звер.*
*Тут у лясах я чую*
*кожным нервам*
*Гармонію і рытм*
*нябесных сфер.*

Як сялянскі сын, вясковец ад нараджэння, паэт быў улюбёны ў маляўнічыя краявіды роднай вёскі, ганарыўся ёю, сніў яе, калі быў удалечыні, і прысвяціў ёй не адзін верш:

*Ёсць Востраў у мяне. З нягод і скрух*
*Я да яго лячу, як да святыні:*
*Ён даў дыханне мне, і зрок, і імя...*

Многія радкі М. Рудкоўскага гучаць крылатымі выслоўямі: «*Мінулае не вернеш, не паўторыш, // Як не паднімеш збітае травы…*». Што да наступнага чатырохрадкоўя, дык гэта ўжо знаходка, мастацкая перліна, створаная роздумам сціплага мудраца:

*Запомнілася гэта*
*як святыня,*
*Як бацькі запавет:*
*кім ты б ні стаў —*
*Адной рукой гайдай*
*калыску сына,*
*Другой — магілу*
*дзедаву папраў.*




Паэт, здаецца, ні пра што не забыў у сваіх вершах. Каларыт Пінска, дзе ён вучыўся ў педвучылішчы, роднага Брэста, дзе доўгі час жыў і працаваў рэдактарам літаратурна-драматычных і музычных праграм на абласной тэлестудыі, Ганцавіч, Давыд-Гарадка, Гарыні, цяністых белавежскіх бароў, Нарачанскага краю, — усё адлюстравалася ў паэзіі М. Рудкоўскага. Ёсць у яго вершы пра сонечны Крым, пра Байдарскі перавал, Ленінград, пра апошнія хвіліны жыцця Архімеда і далёкія планеты... Але што б ні было прадметам мастацкага асэнсавання паэта, галоўная думка яго была пра чалавека, яго духоўны свет, пра дабро і зло, заганы і хараство, пра сутнасць жыцця на зямлі.

Ці не таму яго творы перакладзеныя на англійскую, грузінскую, рускую, украінскую мовы? Многія з іх пакладзеныя на музыку. У 2008 годзе, разам з Міколам Пракаповічам і Алесем Каско, Міхась Рудкоўскі як адзін з аўтараў зборніка «Трохперсце» стаў лаўрэатам літаратурнай прэміі імя У. Калесніка Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта ў намінацыі «Паэзія» — пасмяротна.

Адданасць і вернасць матчынаму слову дапамаглі М. Рудкоўскаму стаць адметным і яскравым аўтарам. Займаўся ён і перакладамі з рускай, украінскай і польскай моў.

Міхась Рудкоўскі заслугоўвае, каб нашчадкі помнілі яго імя, цанілі яго творчасць, вучыліся па ёй любіць сваю зямлю, мову — і самое жыццё.

*Тваім радкам звінець —*
*не адзвінець,*
*Пачуццям тваім ліцца*
*— не праліцца,*
*Твая паэзія —*
*сапраўдная жывіца!*
*Дык як табой, Паэт,*
*не ганарыцца*
*І як цябе — у песнях*
*не апець?..*

Спадзяюся, паэт пачуе са свайго неба яму прысвечаныя радкі.

**Надзея ПАРЧУК**

# Ад сэрца да сэрца,

## між рамантызмам і сучаснасцю

Калі ўважліва прасачыць за гісторыяй развіцця еўрапейскага вербальнага мастацтва, можна ўбачыць цікавую рэч: чаргаванне літаратурных эпох, у якіх дамінуе то рацыянальны пачатак, то ірацыянальны, то прынцып аб'ектывізму ў адлюстраванні свету, то крайні суб'ектывізм. Паміж эпохамі, як правіла, узнікае «сітуацыя дэзарыентацыі», калі пісьменнік, а следам і чытач, не можа вызначыцца, якому са згаданых пачаткаў аддаць перавагу. У такой сітуацыі ўжо гадоў дваццаць знаходзіцца айчынная літаратура, згубіўшыся сярод трох соснаў — рэалізму, мадэрнізму і постмадэрнізму.




Вікторыя Смолка, аўтар паэтычнага зборніка «Зоркаму сэрцу», таксама сярод заблукалых, але тых, чыя творчая свядомасць найслабей адчувае прыцягненне рацыяналізму, чые вочы «шырока закрытыя», каб можна было сузіраць свет менавіта сэрцам. І гэта ім — сёстрам і братам па светасузіранні — перш за ўсё адрасаваная дэбютная кніга маладой гродзенскай паэткі.

У анатацыі так і чытаем: «Гэты паэтычны зборнік — не проста старонкі з вершамі, гэта вясновы ліст да тых, хто бачыць Сэрцам». Хто ж бачыць сэрцам? Упершыню пра такі спосаб бачання ўголас загаварылі прадстаўнікі рамантызму, супрацьпаставіўшы позірк сэрцам (пачуцці) фізічнаму зроку (розуму). Згадаем, напрыклад, заклік лірычнага героя Адама Міцкевіча са знакамітай балады-маніфеста «Рамантычнасць»: «Май сэрца, глядзі ў сэрца!» Гэтыя словы смела маглі б паслужыць у якасці эпіграфа да кнігі В. Смолкі, таксама як эпіграфам да згаданай балады зрабіліся радкі з трагедыі У. Шэкспіра «Гамлет»: «Здаецца мне, што бачу... Дзе? Перад вачыма душы маёй...» У абодвух выпадках (і ў В. Смолкі, і ў А. Міцкевіча), як бачым, прысутнічае далікатная спроба наладзіць дыялог з «пазаўчорашняй» эпохай, зазірнуць у яе чароўную глыбіню, дзе, зрэшты, можна знайсці адказы і на сённяшнія пытанні.

Такі крок няпросты. Значна прасцей усё адпрэчыць, разбурыць, развянчаць, абсмяяць і пачаць нібыта з чыстага аркуша. Падобны шлях выбіраюць многія сучасныя беларускія літаратары, але такая дарога вядзе да дэвальвацыі слова і дэградацыі прыгожага пісьменства. В. Смолка не з гэтага шэрагу. І таму вельмі арганічна ўпісвае ў вобразна-выяўленчую структуру сваіх вершаў папярэднія стагоддзі. Таму побач з Янам Чачотам і Станіславам Манюшкам заўважаем Максіма Багдановіча і Ларысу Геніюш, а таксама постаці сучаснікаў, прычым тых, якія жывуць не проста недзе на найбліжэйшай кніжнай паліцы, але прысутнічалі ў рэальным жыцці В. Смолкі, хадзілі побач з ёй па вулках старажытнай Гародні, дэкламавалі вершы, чыталі лекцыі. Праўда, прысвячаючы гэтым яркім, неардынарным асобам такія ж яскравыя, таленавітыя радкі, паэтка чамусьці напускае туману і ад вядомых імёнаў пакідае адно сціплыя ініцыялы. Мяркую, не варта ствараць падобныя таямніцы, змушаючы шараговага чытача губляцца ў непатрэбных здагадках. Лепш усё ж адкрываць новыя імёны (калі раптам пра іх існаванне чытач раней не ведаў).

З гэтай прычыны рассакрэцім некаторыя моманты. Так, напрыклад, верш «У светлым сэрцы зноў не светла...» прысвячаецца не проста І. Я. Л., а Івану Якаўлевічу Лепешаву, слыннаму мовазнаўцу, вучонаму ў галіне славянскай фразеалогіі, доктару філалагічных навук, прафесару, пад чыёй шчырай апекай вырасла не адно пакаленне студэнтаў-філолагаў Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы (дзе сёння вучыцца В. Смолка). Ініцыялы А. М. заўважаем над прыгожым вершам «Я буду з Вамі, буду Вашай...». Гэта Ала Мікалаеўна Петрушкевіч, літаратуразнаўца, паэтэса і эсэістка, якая да нядаўняга часу працавала дацэнтам у згаданай установе, чытала цікавыя лекцыі па беларускай літаратуры.

І яшчэ маем верш, магчыма, адзін з лепшых у кнізе — «У гэту нядзелю...», прысвечаны Ю. Г., насамрэч — гродзенскаму паэту-мадэрністу Юрыю Гуменюку, які не так даўно трагічна загінуў. Многія вершы Ю. Гуменюка пакладзеныя на музыку, сярод іх — «Агністы мак». Вось адкуль выплываюць словы, якія ў скрусе прамаўляе лірычная гераіня В. Смолкі: «Агністага маку, // Агністага неба //, Агністага Юры // Ужо не вярнуць».

Вікторыя Смолка — паэтка гарадзенская. Не толькі таму, што нарадзілася і жыве ў гэтым горадзе. «Гарадзенскасць» праяўляецца на самых розных узроўнях мастацка-стваральнай прасторы яе вершаў — ад выбару тэматыкі да інтанацыйна-гукавой арганізацыі тэкстаў (у гэтым плане многія вершы маладой гарадзянкі вельмі сугучныя з паэзіяй самай выбітнай прадстаўніцы гродзенскай літаратуры Дануты Бічэль, асабліва калі ўзяць «дамузейны» перыяд творчасці).

Нехта скажа, што паэтка залішне захапляецца колішнімі мастацкімі тэндэнцыямі, асабліва рамантычнымі, якія ў сваю чаргу бяруць пачатак яшчэ ў вуснай народнай творчасці. Нехта зверне ўвагу на частае выкарыстанне ледзь не шаблонных для айчыннай паэзіі матываў. Але ў гэтым якраз і заключаецца сучаснасць — не саромецца сваіх традыцый, не баяцца сваіх пачуццяў, умець тут і цяпер ахапіць і духоўным, і фізічным зрокам зоры мінулага і будучыні, а тое, што ўдалося ахапіць, — аддаць іншаму сэрцу, магчыма, не такому зоркаму.

**Анатоль БРУСЕВІЧ**



Алесь КАРАНЕЎСКІ

## Кругі

Ці можна ў снах даваць парады?
Ці свет сучасны разумней?
Мо лепей плітку шакаладу
Скрышыць з усмешкаю вачэй,

Сузор'е крышталю разбавіць
Бліскучай пеннаю ігрой —
І з зорным клічнікам паставіць
Прызнанне кропкай залатой!

«Не танчыць» — можа… ці калісьці...
А смела, да сустрэчы зім,
Каханай светлую іскрыстасць
Сабраць у келіху сваім!

Але сумненні косяць поўна
Наконт праформы… век другі...
Ці будзеш ты сабе галоўны...
І зноў плывуць кругі... кругі...

***

Добрая вестка малюе
Сонечны позірк і ўздых.
Маючы долю такую,
Цяжка паверыць на слых.

Радасцю надта не цешыць
Час наш у лёце гадоў.
Вось і ажыў новы вершык —
Зыркнула шчасце наўкол!

***

Куды ні глянь — вада цячэ,
Бясконцых кропель гук суладны.
А мне ўначы ад іх лягчэй.
І я дажджу непадуладны.

Не сну, а думкам трапяткім
Раскрыта цёплая пярына —
Хай млеюць з целам дарагім.
А ты цячы, вада, да млына.

І нечым выльешся ты ў свет,
Як гэты мой капрыз лятучы.
З дажджом не розніцца паэт:
Пральецца штосьці святлом кіпучым.

***

Мроі зранку смугою вярнуцца,
Божы свет да зары дапльіве,
Але хвалі быццё мерна льюцца,
Без адказу жыве чалавек —

Каму бегчы, каму заставацца,
Каму жыць, каму ў жорнах пыліць.
Гонар несці і з доляю знацца.
Каму зорнай туманнасцю плыць.

***

Слабасць грошы не носіць
І бязвольны адчай.
Трэба з раніцы крочыць,
Гарадзіць, вызначаць.

Хто тут першы, шугайце —
Ці пярун, ці сляза!
Ліце, вейце, спявайце —
Рагатун, драбязя!

Міг раптоўны, таемны —
Ну нясі свой сюрпрыз!
Не схаваемся ў цемры,
Не ўзляцім за абрыс!

Варта сёння пабачыць
Кожны дзень не здаля:
Можа, трошкі аблашчыць
І не спаліць датла.

Вунь ляціць — ці спаткаем,
Ці памкне ўгору дым...
Лёс удзячна прымаем
У палёце скразным!

***

Ты не сказала ці ён не сказаў...
Штосьці сышло — і ключы на паліцы.
Вылеты меціць крыштальны вакзал.
Калька нябёс на прамоклай сталіцы.

Там з вышыні ты яе пашкадуй —
Бачыш, яна бы крупінка ў прасторы!
Просьбы без словаў, як ты ні малюй, —
Жаласны вобраз пахмурнага мора...

Пульсам знутры б'юцца хуткасці дзён...
Ваша струна злёгку ўсё ж прагучала
Музыкай — тонкі, пяшчотны
паўтон, —
Ясна-празрыстым святлом
без прычала...

***

Пагладзіў нехта па галоўцы —
І сны так мучыць перасталі...
Аднекуль божая кароўка
Зляцела на твае каралі!

Хутчэй, свяціла дарагое, —
Цяпло твае і нам належыць, —
Тваё святое, залатое
Патрэбна больш, чым долі межы!

І лёгкасць уздыханняў нашых...
Кароўка божая ў вазоне...



«Дзень добры» ты чаму не кажаш?
Дзень добры — як святло ў далоні!

***

Думка меж не мае,
Да нябёс сягае,
Толькі мы зямныя
Водзім караблі.

Больш па зорным гаі
Мы у снах лятаем —
Там плывуць жывыя
Нашых мар агні.

І жаданні-госці
Нашу цешаць роспач.
Праз усе нястачы
Мы свой крыж нясём.

Радасці лагодзяць…
Дзесьці побач ходзяць…
Больш бы толькі бачыць
Свет, дзе родны дом.

Але ж нешта гоніць
Нас у сны ваколіц
Зімкаю ці ўвосень…
Леташнія дні...

І аднойчы зранку
Ўсё ж мы сыдзем з ганка
І ўзляцім, як просяць
Вечныя агні…

***

Дождж занудную множыць тугу,
А навокал — кругі ды шматкроп'і...
І я ў мроі згубіцца магу,
Як агалены лес у патопе.

А сяброўка на покліч акна
Не мінула астуджанай хаты.
Зноў вярнулася... Зноў да відна
Будзем грэцца цяплом небагатым...

Ты сядай… вось віно — я адзін.
Буду зоркай тваіх спачуванняў!
Стала светла… ды колькі хвілін
Застаецца яшчэ да світання?

## Замала пакрышыў я хлеба

Замала пакрышыў я хлеба…
Па твары хваля каўзанула.
Імкнуцца разам птушкі ў неба:
Трывога жахам агарнула
Прастору — і пагляд сягае…
На далечы спыніўся сіняй.
Там таямніцы ўсё гуляюць,
Вірують і пульсуюць плыні,
Якіх не бачым і не чуем.
Кліч вышыні… ці пераклічка?..
Імгненне, што ты там чаруеш?..
Вяртаюцца жывыя знічкі.



Аліна ЛЕГАСТАЕВА

***

Што для мяне Айчына?
Найперш — мая зямля.
Мой дом, і вочы сына,
І дружная сям'я,
І шапаценне клёнаў,
Таполяў, што наўкол,
Яшчэ ў куце ікона
І на стале хлеб-соль.
А па-другое — мова,
Што дадзена як кроў,
Як нацыі аснова,
Як сэрца, як любоў.

***

Шугала полымя на сцэне —
Ішла мінулая вайна.
Вярнула хроніка імгненне,
Як пачыналася яна.

Гарэлі ў попел нашы хаты,
Ў руіны палі гарады.
Грымелі дзень і ноч гарматы
Чатыры доўгія гады.

Мільёны палеглі пад пліты,
Манументальныя крыжы…
Услаўленыя, незабытыя,
На ўсе часы стаяць яны.
І высі курганоў, і помнікі,
І вёсак спаленых званы
Галосяць праз нябыт, каб помнілі
Ахвяры жудаснай вайны.

***

Мая вёсачка
памірае.
А была яна
светлым раем.
А была яна
першай казкай,
Рук матуліных
цёплай ласкай.
Першым словам
І першым сказам,
Маім спомінам
непагасным.
Ад яе быў крок
сцежкай долі.
Сёння ж — толькі змрок…
Плач таполі…

***

Зямля — наша плоць,
А кветкі — яе душа.
Таму, калі вясной
Расцвітаюць кветкі,
Ажывае душа чалавека,
Бо мы і зямля —
Адзінае цэлае.

## Пакаленне NEXT

Яны нічога не бачаць
Апроч інтэрнэту.
І нічога не чуюць,
Бо ў вушах — музыка.
Нікога яны не слухаюць —
Самі аўтарытэты.
Яны жывуць у віртуальным
Вымярэнні.
Так лісцё павучае
Карэнні,
Хоць само жыве
За іх кошт.



Андрэй СІДАРЭЙКА

# Бяседа з галоўнымі героямі

*Апавяданне*

Гэтая гісторыя здарылася ноччу (не магу сцвярджаць, што наяве). Я хварэў. Высокая тэмпература трымалася тры дні.

Хвароба перакрыла літаратурную працу. Так, ужо некалькі месяцаў запар я пісаў твор. Што гэта: аповед, аповесць або раман, не ведаў. І не ведаў, штó атрымаецца. У свядомасці з'яўляліся ідэі, паўставалі прататыпы герояў. Яны прасілі, каб даў ім жыццё. А мне быў занятак. Напэўна, гэтым і цешаць сябе знакамітыя пісьменнікі.

Напэўна. Я да гэтай кагорты сябе не адношу. Я быў простым супрацоўнікам маленькага прадпрыемства. Набываў перыёдыку ў кіёсках. Словам, жыў як усе.

Ідэя твора прыйшла вокамгненна. Захапіла. Я бачыў, як новы свет ажывае на паперы. Жыхары гэтага свету размаўляюць, у іх свой характар, звычкі. У захапленні ад гэтага часам губляўся: на якой паралелі рэальнасць, а на якой — фантазія.

І вось некалькі дзён я ляжаў у ложку. У мроях з'яўляецца галоўны герой. Прысеў на канапу.

— Так, ляжым? — запытаўся.

— Хварэю, — адказаў я.

— Так-так. А я думаю: чаму цябе няма ў нашым свеце?..

— Не магу. Тэмпература за 39.

— Ну і?

— Што «ну і?» — не зразумеў я.

— Як нам жыць? Твор напісаны толькі напалову. І што будзе далей, ніхто не ведае. Героі перажываюць — хочуць ведаць пра сваю будучыню.

— Пачакайце крыху. Я хутка вярнуся.

— А калі не? Што, мала фактаў, калі ад хваробы канаюць?

— Ва ўсякім выпадку, цябе гэта хваляваць не павінна, — агрызнуўся я.

— Ну чаму ж? Нас усіх хвалюе.

Галоўны герой нахіліўся бліжэй. Нарэшце я змог разгледзець яго твар цалкам: зусім не такі, які я апісаў у творы. Замест маладога чалавека, сучасная мача, перада мной сядзеў тоўсты смоўж з маленькімі ручкамі, вузкімі вачыма…

— Ты ж у творы зусім іншы, — сказаў я.

— У творы мы ўсе іншыя. А вось у рэальнасці... Ты сам у паўсядзённым жыцці які? Сціплы, мухі не пакрыўдзіш, а калі пераходзіш у паралельны свет? Кім сябе адчуваеш? Манархам. Лічыш, што ты стварыў нас і можаш з намі абыходзіцца як захочаш.

— Але ж гэта застанецца толькі ў тым свеце. У тым.

— Магчыма. Але ўсе будуць чытаць. І ўсе будуць думаць пра нас менавіта так, як думаеш ты. А мы думаем пра сябе інакш. Напрыклад, я. Ну які я мача? Навошта мне гэта? Хачу быць звычайным чалавекам.

— А што яшчэ табе не падабаецца? — запытаўся я.

— Маё імя. Вось прыкмець: у тваіх героеў імёны дзевятнаццатага стагоддзя. Гэта не сучасна. Які я Алесік? Калі табе падабаецца гэтае імя, давай я буду Алексам. Падругое — мая вопратка. У чым я хаджу, у клятчастых штанах?! А мне больш падабаецца стыль вестэрн.

— Што яшчэ?

— Прабач, калі ласка, але мне не падабаецца галоўная гераіня. Словам, з Таццянай сустракацца не хачу. Мне больш падабаецца Оля. А па тваіх планах яна пазнаёміць мяне са сваімі бацькамі. Гэта трэба перапрацаваць. Скажам, у апошні момант галоўны герой зразумее, што ўсё жыццё марыў пра іншую. І Тацціна — гэта памылка.

— А калі не?

— У аўтара свае думкі, у герояў — свае.

— Так. А што думаюць іншыя героі?

— Шмат чаго. Напрыклад, Тацціна. Яна лічыць, што мача не мог пазнаёміцца з ёю ў такім месцы, як «Абрыкос». Па меншай меры гэта знаёмства адбылося ў клубе «Парадыз». А Оля звычайна бывае ў кавярні «Эвелін».

— А ты дзе б хацеў знаёміцца?

— Таксама ў «Парадызе».

— Але я стварваю вобраз пушкінскай Тацціны.

— Ды гэтая Тацціна, пакуль ты рабіў сабе каву, шапнула мне, што я ў яе не першы. І ўвогуле, навошта мне гэтае ідэалістычнае каханне? Мне патрэбна тая, якая без рамантыкі гатовая на ўсё.

— Такая, як Оля?

— Так. Ты нават не ўяўляеш, якія пірагі яна выпякае па-за тваім сюжэтам!

— Гэта калі?

— Пакуль ты не прыходзіш да нас, не садзішся за ноўт і не пачынаеш занатоўваць свой бяздарны сюжэт! Вось і цяпер я ад Олі. Спачатку пірагі, а потым да цябе.

— А дзе Тацціна?

— З Генам на «*Underworld*»!

— З галоўным сапернікам галоўнага героя? Як ты мог?!

— Які ён мне сапернік? Кажу ж яму: «Сустракайся з Тацціянай. Я не супраць».

— І вы яшчэ скардзіцеся на жыццё?

— Мы хочам, каб на паперы ўсё было па-іншаму. Нас хвалюе наша будучыня.

— Прэч! Прэч!

Некалькі хвілін або гадзін (зусім заблытаўся ў часе) я быў адзін. Але праз думкі дайшоў водар жаночай парфумы. З цяжкасцю расплюшчыў вочы — на канапе прывабная дзяўчына.

— Добрай ночы, — мякка сказала яна.

— У позні час наведваць людзей не прынята.

— А адпраўляць мяне ў начны клуб з непрыемнымі тыпамі прынята? І наогул, эксперыментаваць з маім асабістым жыццём пасля дзесяці вечара — гэта па-чалавечы? — адказала яна.

— Які яшчэ клуб? — не зразумеў я. Але, прыглядзеўшыся да начной госці, пазнаў галоўную гераіню — Тацціну. Але яна хутчэй нагадвала супрацоўніцу стрыптыз-клуба.

— Тацціна, а дзе твая прыродная сарамлівасць? — амаль выкрыкнуў я. — Хіба такі твой вобраз у маім творы?

— У творы, — хмыкнула яна. — А мне надакучыла жыць так, як у творы. Лепш бы ты мяне зусім не ствараў. Я адчуваю сябе непатрэбным персанажам. Мая душа прагне зусім іншага, мне хочацца драйву, а па сюжэце я атрымліваюся пай-дзяўчынкай. І гэты Алекс, па-вашаму Алесік, мне зусім не падабаецца. Вось Гена — гэта мужчына! Так што, паважаны творца, перапрацуйце, калі ласка, сюжэт.

— Але гэта немагчыма. У сучасным жыцці так мала таго, што ёсць у маім творы. Таму я і хацеў, каб ты нагадвала вобраз пушкінскай Тацціны.

— Ува мне гарыць такі агонь! А ваш Алесік, скажу па сакрэце, імпатэнт.

— Але гэта можна выправіць. Я напішу, што ён схадзіў да ўрача, і той выпісаў яму лекі…

— Тады, калі ласка, не забудзьцеся пазначыць, калі будзеце пісаць фінальную сцэну, дзе я, пэўна, выйду замуж за Алесіка, наступнае: пасля вяселля галоўная гераіня прыняла спайсу — і яе душа паляцела ў рай. А калі вы так не напішаце, то сама так зраблю. Уступаць у шлюб з нялюбым — супраць маіх прынцыпаў. Да таго ж ён не нафтавы магнат.

— Напішу, Тацціна, напішу.

Дзяўчына знікла. Тэмпература паднялася яшчэ вышэй. Здавалася, яшчэ крыху — і я без усялякага спайсу аддам богу душу. Але тут з'явіліся яшчэ двое — Гена і Оля.

— Мы не ведаем, паважаны пісьменнік, што вам сказалі папярэднія героі, але хочам выказаць сваё меркаванне з нагоды будучага развіцця сюжэта.

— Слухаю вас.

— За час, што вы пішаце твор, мы паспелі пазнаёміцца. І ў нас з'явіліся свае сімпатыі. І цяпер, калі твор дасягнуў апагею, мы зразумелі, што не можам жыць адно без аднаго. Так што, паважаны пісьменнік, падумайце, калі ласка, як зрабіць наша знаёмства больш рамантычным. Будзем вам за гэта вельмі ўдзячныя.

— Але ж вы другарадныя героі. Як паміж вамі можа ўзнікнуць каханне?

— Мы ж таксама людзі! Чаму вы забараняеце нам кахаць адно аднаго? У рэшце рэшт, калі вы зноў прыступіце да твора, у паралельным сусвеце вашых герояў ужо не будзе.

— Алесік сказаў, што яму падабаешся ты, Оля. І што ты таксама не супраць быць з ім, нават пірагі яму пячэш. А па словах Тацціны, страла Амура трапіла ў два сэрцы — яе і Гены. Ці гэта ўсё не так?

— Вядома, гэта лухта, — адказала Оля. — Мне проста шкада вашага галоўнага героя. У мяне да яго ўзнікае хутчэй інстынкт мацярынства, чым каханне. Ён такі інфантыліст!

— А Тацціне надта далёка да пушкінскага вобраза. Так, я ёй пакарыстаўся, але ажаніцца хачу з Оляй, — сказаў Гена.

— Я падумаю над вашай прапановай, — адказаў я.

— Падумайце, калі ласка, — і зніклі.

...Праз некалькі дзён я ачуняў. Дастаў з шуфляды паперы і кінуў у камін. Агонь паглынуў герояў. І больш ніхто мяне ноччу не хваляваў. І Тацціна, і Гена, і Оля, і іншыя героі назаўсёды зніклі з памяці. Я перастаў пісаць. Пра досвед пісьменства засталіся толькі ўспаміны. А потым сышлі ў нябыт і яны.



Таццяна ДЗЕМІДОВІЧ

# Верны сябар

*Навела*

Ішоў дождж. Пад вузкім брылём крытага рынку зябла жанчына. Каля яе ног ляжала кардонная скрынка.

— Вазьміце сабачку! — прапаноўвала незнаёмка мінакам. — Добры, ласкавы! Будзе вам верным сябрам!

Мой парасон ірваў вецер. Я затрымалася, міжволі зазірнула ў скрынку. Белы пухнаты камяк закапаўся ў цёплы вывілы подсціл і хутка дыхаў.

— Вазьміце сабе сябра, — жанчына гаварыла павольна, часам шморгала пачырванелым, падмерзлым носам, з-пад шэрага берэта выбіваліся фарбаваныя ў ярка-руды колер валасы. Я ўспомніла, што бачыла гэтую дзівачку з Таварыства аховы жывёл на мінулым тыдні. Тады яна спрабавала прыстроіць у добрыя рукі старога аднавокага ката.

— Ні за што! — адрэзала я. — І без гэтага клопатаў хапае: дзеці, дом, праца... А тут яшчэ вялізны бяздомны сабака — бліхі, глісты, абцугі, выгул у шэсць гадзін раніцы. Бр-р-р, не для мяне!

Жанчына з паразуменнем усміхнулася... Парасон нарэшце склаўся, і я паспяшалася далей. Праз паўгадзіны, пакідаючы рынак, выпадкова зачапіла сваёй цяжкай торбай усё тую ж вялікую кардонную скрынку. Снежанькі дождж сцішыўся, нават сонца пачало трошкі прабівацца з-пад шчыльнага бялёсага палатна хмар.

Каля скрынкі сядзеў хлапчук гадоў сямі і трымаў на руках укормленага сабаку. У руцэ малы нядбайна камячыў грошы. Сабачка ад радасці скуголіў, аблізваў хлопчыку твар, віляў тонкім, закручаным дагары хвастом.

— Хуценька пакладзі сабаку на месца! — злавалася «дзівачка». — Усё роўна не прадам!

— Аддайце, цётачка, я ж амаль месяц грошы збіраў, за гэты час ніводнай цукеркі ў школе не купіў! — са слязьмі на вачах прасіў малы. — Вы ж казалі: як пяцьдзясят тысяч назбіраеш, дык адразу прыходзь...

— Бач ты, які настырны! Не патрэбны мне твае грошы! Вось калі б з мамкай прыйшоў — тады іншая справа! Бо так возьмеш сабачку, а мама потым яго выкіне! Бімка ў гэтым жыцці з лішкам нацярпеўся! Шкада яго!

— Не выкіне, пад ложкам буду хаваць! — хлопчык засунуў дрыжачага Бімку пад куртку і зашпіліў маланку, маўляў, усё — пытанне вырашана!

— Прыдумаў: «Пад ложкам!» — перадражніла яго жанчына. — Ану, хуценька пакладзі Біма на месца!

На жаль, я не дагледзела, чым скончылася гэтая гісторыя, — часу не было... Ды і дзе ўзяць гэты час, калі жывеш у шкарлупіне, у якой усе мітусяцца, бягуць кудысьці…

У якой усё робіцца з-за выгады…

У якой сяброўства не каштуе нічога…

У якой навучыліся любіць за нешта і чамусьці, а не проста так...

І як жа хуткаплынна наша дзяцінства, і як жа мы, самі таго не заўважаючы, сталеем і паступова пераязджаем у гэты шкарлупінны свет з прыдуманымі праблемамі... Абыякава назіраем, як за нашымі непрабіўнымі сценамі хтосьці самотны пад дажджом ахоўвае дрыготкі камячок любові і вернасці ў вялікай кардонай скрынцы ад даўно прададзеных бананаў…

# Падзяка ад дзядзькі Рыгора,

## альбо Вялікае бачыцца ў простым

**Калі ўзгадваю народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, паміж датамі жыцця і смерці якога — тыдзень і 79 год (24.02.1935 — 2.03.2014), то найперш пра адзіную нашу сустрэчу 15 год таму, якая і зараз паўстае ў памяці ў такіх падрабязнасцях, быццам адбылася ўчора.**

…Трымаю ў руках пажаўцелую ад часу газету «Раённы веснік» (г. Чэрвень) за 18 кастрычніка 2000 года — і не верыцца, што менавіта маё інтэрв'ю з класікам беларускай літаратуры (!) надрукавана тут. Зараз гэта падаецца цалкам нерэальным. Зрэшты, як і тады...

Увогуле, 2000 год памятаецца па іншых прычынах. Якраз улетку, адпрацаваўшы ў СШ № 4 г. Чэрвеня 10 год, вырашыла змяніць сферу дзейнасці. Хацелася нарэшце спраўдзіць дзіцячую мару і стаць журналістам. Тым больш што досвед працы пазаштатнікам у раёнцы, «Звяздзе», часопісе «Гаспадыня» ды іншых выданнях меўся ўжо, і неблагі. Але... Да атрымання жаданай працы давялося чакаць яшчэ некалькі месяцаў, працуючы навуковым супрацоўнікам Чэрвеньскага раённага краязнаўчага музея.

Так склалася, што да беларускасці я прыйшла... Не, не магу патлумачыць, чаму. Магу толькі сказаць, калі. Яшчэ на апошніх курсах вучобы ў Магілёўскім педвучылішчы. Беларуская мова дзякуючы нашай выкладчыцы Ядвізе Станіславаўне Рымкевіч палюбілася настолькі, што ўрачыстае мерапрыемства з нагоды заканчэння навучальнай установы мы падрыхтавалі на беларускай мове. Гэта быў 1990-ы.

Затым — размеркаванне ў СШ № 4 г. Чэрвеня і рашэнне кіраўніцтва аддаць мне, маладому спецыялісту, адзіны на той час беларускамоўны першы клас у рускамоўнай школе. Выпусціўшы дзяцей праз чатыры гады, атрымала яшчэ адзін беларускамоўны клас, толькі не першы, а чацвёрты. Астатнія ж пяць год выкладала родную мову і літаратуру ў сярэдніх і старэйшых класах, скончыўшы да гэтага часу завочна факультэт беларускай філалогіі і культуры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка.

Узгадваю пра гэта таму, што на ўроках з дзецьмі мы, зразумела, вывучалі біяграфію і творчасць Рыгора Барадуліна, далёкага і недасяжнага для нас. Зрэшты, яго цёплыя радкі запалі мне ў душу яшчэ са школы, разам з радкамі Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа...

Уявіце маю радасць, калі атрымала рэдакцыйнае заданне — узяць інтэрв'ю ў Рыгора Барадуліна і Алеся Камоцкага (вядомы творчы тандэм!), якія прыязджалі з выступленнем у наш сціплы правінцыйны горад!

Калі б рыхтавалася да інтэрв'ю зараз, дык з лёгкасцю знайшла б у інтэрнэце мора публікацый і неабходных звестак пра гэтых слынных людзей. А тады, не маючы ні камп'ютара, ні інтэрнэту, перагартала шмат літаратуры ў чытальнай зале Чэрвеньскай цэнтральнай раённай бібліятэкі.

20 пытанняў да Рыгора Барадуліна і 14 — да Алеся Камоцкага запісаны ў спецыяльна набыты блакнот з чырвонай вокладкай. Дыктафон узяла ў рэдакцыі. Назбірала букеты з уласных позніх хрызантэм. Парадны сіні касцюм... Разам з татам (два беларускія філолагі) крочым да чэрвеньскага кінатэатра «Сучаснік», дзе павінна адбыцца сустрэча. Пятніца, 13-га...

Шаноўнага Рыгора Барадуліна бачу на прыступках кінатэатра. З ім мяне знаёміць наш чэрвеньскі сябра пісьменніцкага саюза, родам з Ушаччыны, Генадзь Аўласенка. Колькі слоў — і Рыгор Іванавіч схіляе галаву, каб пацалаваць мне руку. Ад нечаканасці выпускаю букет, прызначаны яму. За ім нагінаемся разам. Прашу аб інтэрв'ю — адказ станоўчы. І настолькі народны паэт просты і сяброўскі, што ўсё маё хваляванне незаўважна знікае. Я ў захапленні!

...Мы сядзім у зале кінатэатра. І гэта — не, не інтэрв'ю! — шчырая сяброўская гутарка (перапісаная пасля на ўласную касету, яна і зараз захоўваецца ў мяне). Пазіраю ў мудрыя вочы — і пытаюся пра ўсё на свеце! І пра тое, як Рыгор Барадулін ставіцца да супадзення «пятніца, 13-га», і пра яго хатняга ўлюбёнца — чорнага ката Мірона. Уражанні ад Чэрвеня, настаўнікі ў літаратуры і самыя строгія крытыкі, пераклады і веданне моў, адносіны да веры... Абсалютная большасць пытанняў і адказаў увайшла ў надрукаванае ў раёнцы інтэрв'ю. А ў загаловак вынесены словы народнага паэта: «Самым дарагім набыткам у жыцці я лічу беларускую мову...»

Перачытваю публікацыю — і разумею, што цяпер для загалоўка прапанавала б іншае. На маё пытанне «Калі б Вас папрасілі напісаць эпіграф не да твора, а да ўсяго Вашага жыцця, які радок Вы б выбралі?», Рыгор Іванавіч адказаў: «Я б, можа, такі выбраў: «Я д'яблу не прадаў душу...» Моцна сказана, праўда?! І так шчыра, па-барадулінску...

Для аўтографа на памяць я адшукала тады публікацыю пра народнага паэта ў прафесійным філалагічным часопісе «Роднае слова» за 1999 год. «Вяльможнай спадарыні Святлане Адамовіч — Дзякуй! Рыгор Барадулін» — напісана там. Гэта падзяка за інтэрв'ю, за ўвагу да творчасці. Пакінуў па маёй просьбе шаноўны Рыгор Іванавіч і свой адрас, на які крыху пазней адаслала некалькі экзэмпляраў «Раённага весніка» з уласным лістом-падзякай.




Я ўдзячна Рыгору Барадуліну за яго таварыскасць, за такія простыя адносіны, за разуменне і падтрымку, якую адчувала падчас усёй нашай размовы. А яшчэ, як ні дзіўна, за тое, што пасля гэтай сустрэчы абсалютна перастала баяцца супадзення «пятніца, 13-га». Бо распавёў ён мне тады наступнае: «Па-першае, 13-е чысло для мяне шчаслівае. А наогул, па сістэме лічбаў няма «13», а ёсць «1» плюс «3» — «4». А лічба «4» абазначае трываласць, грунтоўнасць, спакой. Так што гэта невыпадкова. Я люблю і панядзелак, і 13-е чысло...»

Два гады таму, 4 сакавіка, глядзела па інтэрнэце трансляцыю з Чырвонага касцёла, дзе развіталіся з Рыгорам Барадуліным, і не выцірала слёз. Так балюча было, такая скруха на сэрцы... Гляджу на блакнот з пытаннямі, газету з інтэрв'ю, часопіс з аўтографам, касету з запісам — і не трэба нават заплюшчваць вочы, каб уявіць тую адзіную сустрэчу. Як добра, што яна была...

А яшчэ ў калекцыі цяпер ёсць рукапісы, здымкі і кружэлка з вершамі народнага паэта, сабраныя ў зборнік «Лепей», плюс асобны зборнік з апошнімі вершамі Рыгора Барадуліна пад назвай «У неба пехатою»…

**Святлана АДАМОВІЧ**

# Артур Вольскі. Гісторыя аднаго ліста

**На жаль, гэтае пісьмо без даты. І ўсё ж яно сведчанне часу. А яшчэ — сведчанне характару адносін паміж пісьменнікамі, адносін прыязных, якія б спрыялі творчаму развіццю.**

Хутчэй за ўсё, гэты ліст Артур Вольскі напісаў мне напрыканцы 1987 ці ў пачатку 1988 года… «Паважаны Алесь!

З прыемнасцю паведамляю Вам, што апавяданне Акмухамеда Вельсапарава, перакладзенае Вамі на беларускую мову, будзе змешчана (калі не здарыцца чаго-небудзь нечаканага) у штогодніку «Братэрства — 88». Будзем спадзявацца, што першая ластаўка не застанецца першай. Але ў далейшым узгадняйце з намі, што Вы хочаце прапанаваць «Братэрству». Так будзе больш надзейна.

Цяпер — настойлівая просьба. Паколькі ў даведніках, якія маюцца ў нашым распараджэнні, мы не знайшлі ніякіх звестак пра аўтара апавядання, просім Вас як мага хутчэй паведаміць нам кароткія біяграфічныя звесткі пра А. Вельсапарава і даслаць у выдавецтва яго фотакартку. Без гэтага рукапіс не можа ісці ў вытворчасць, а здаваць у набор яго ўжо трэба было, як кажуць, учора. Спадзяёмся, што Вы неадкладна адгукнецеся на нашу просьбу. Чакаем!

У беларускім друку ўсё часцей мільгае Ваша прозвішча. Гэта прыемна.

Новых Вам поспехаў!

Артур Вольскі, укладальнік "Братэрства"».

Вось і ўвесь ліст. Кароткі. Па справе… У той час, калі я спасцігаў новыя для сябе гарады і старонкі, у 1985 —1990 гг., пасля чатырохгадовай вучобы ў Львове, мільгацелі перад вачыма Ташкент, Ашхабад, Гавана, свядомасць станавілася іншай, болей шырокай ад адкрыццяў, знаёмстваў, прачытанага. Так я перакладаў на беларускую мову «Летнія запісы» народнага паэта Туркменістана Керыма Курбанняпесава. Рукапіс, адпраўлены ў «Маладосць», недзе, пэўна, бясследна знік. Так пераклаў дзіцячыя апавяданні Каюма Тангрыкуліева. Двойчы ў тым самым 1988 годзе іх надрукавала «Вясёлка». Паспрыяў гэтаму Мікола Маляўка, які тады працаваў у рэдакцыі часопіса. Крыху пазней пераклаў на беларускую мову гумарэску ці, хутчэй, нават гумарыстычнае апавяданне Арэ Дашкынава. Пераклад надрукавала «Чырвоная змена», куды тэкст аднёс мой добры памагаты, старэйшы таварыш Мікола Чарняўскі.

…Апавяданне Акмухамеда Вельсапарава «Перад світаннем» у перакладзе на беларускую мову пабачыла свет у альманаху «Братэрства — 90». Поруч з яшчэ адным маім перакладам — апавядання «Успамін» Тыркіша Джумагельдыева. Пісьменнікі розных пакаленняў, яны абодва мне дарагія. Дзякуй богу, жывыя і зараз. Акмухамед Вельсапараў яшчэ ў першай палове 1990-х пераехаў у Швецыю, заснаваў там сваё кніжнае выдавецтва. Тыркіш Джумагельдыеў па-ранейшаму жыве і працуе ў Ашхабадзе. Мне пашчасціла з імі сустрэцца яшчэ аднойчы: з Тыркішам Джумагельдыевым — у 2009 годзе, з Акмухамедам Вельсапаравым — у 2012-м… Дарэчы, нядаўна перагортваў свой дзённік, які вёў на Кубе, у 1988 — 1990 гг. Адтуль і напамін, што быў яшчэ адзін пераклад прозы Акмухамеда Вельсапарава, — апавяданне «Упарты»... Яго, праўда, надрукаваць не ўдалося.

Ліст Артура Вольскага, вядомага беларускага дзіцячага пісьменніка, перакладчыка, тады, ледзьве не 30 гадоў назад, прымусіў мяне не маўчаць, не пакідаць сваіх сціплых спроб у перакладчыцкай справе, ды і ўвогуле — у стасунках з беларускім друкам.

І цяпер у полі майго перакладчыцкага зроку — туркменскія пісьменнікі. Сярод іх — Агагельды Аланазараў, Касым Нурбадаў, Максат Бяшынаў, Камек Кулієў… Пераклады іх твораў з'яўляюцца ў «Вясёлцы», «Бярозцы», газеце «Пухавіцкія навіны», часопісе «Гаспадыня»… А пачатак гэтай работы, гэтага даўняга захаплення ў многім адбыўся дзякуючы менавіта лісту, шчырай увазе светлай памяці Артура Вольскага.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# Кніжніца новага фармату

## Тая, што ўмее здзіўляць

**Так вызначыла сутнасць сучаснай бібліятэкі Аксана Драчан, дырэктар Уздзенскай раённай бібліятэкі. Шыкоўная кніжніца ў гэтым раённым цэнтры радуе карыстальнікаў камфортам.**

Але галоўнае, на думку Аксаны Валер'еўны і ў чым гэтак жа глыбока перакананы яе калегі, — стварыць у кніжным храме такую атмасферу, каб абудзіць душы людзей святлом, якое дорыць кніга.

**— Аксана Валер'еўна, як ваша бібліятэка пазіцыянуе сябе ў сучаснай інфармацыйнай прасторы?**

— Штогод з зайздросным пастаянствам да нас прыходзяць больш за тры тысячы карыстальнікаў, людзей самых розных узростаў, прафесій, сацыяльных груп. Летась кнігавыдача склала 51 746 тыс. экзэмпляраў дакументаў. Бібліятэка мае універсальны фонд, які налічвае звыш 42 тыс. экзэмпляраў дакументаў. Толькі за мінулы год фонд папоўніўся на 2 тыс. экзэмпляраў. Узрасла ў параўнанні з мінулымі гадамі і падпіска на перыядычныя выданні. Абсалютна не хочацца пераводзіць гаворку на інтэрнэт, бо, як мяркуюць некаторыя, у недалёкай перспектыве ён возьме поўную перавагу над друкаваным словам. Інтэрнэт — сапраўды выдатная аператыўная крыніца атрымання ведаў. Дарэчы, і бібліятэка мае хуткасны доступ да сеткі інтэрнэт, тут дзейнічае зона Wi-Fi. Для паслуг карыстальнікаў прадстаўлены «Публічны цэнтр прававой інфармацыі», ЭБДПІ «Эталон».

Бібліятэка і інтэрнэт па сваёй сутнасці — розныя. Не трэба блытаць іх магчымасці. Клопат бібліятэкараў у тым, каб трывала заняць сваю нішу ў інфармацыйнай прасторы рэгіёна, таму і шукаем новыя спосабы папулярызацыі кнігі.

**— У такім разе патлумачце, што па-ранейшаму родніць чытача з бібліятэкай?**

— Атрымаць інфармацыю — гэта толькі палова справы. Важна яе з некім абмеркаваць, атрымаць дасведчаны каментарый, хочацца нават проста пабыць сярод аднадумцаў. Зараз нашу дзяржаўную ўстанову культуры «Уздзенская цэнтральная раённая бібліятэка імя П. Труса» правільней называць культурна-асветніцкім цэнтрам. Няма амаль ніводнага дня, каб у нас не ладзілася нейкае мерапраемства, каб да нас не ехалі шаноўныя госці або каб мы гуртам з самымі актыўнымі чытачамі не збіраліся ў дарогу нават за межы раёна. У бібліятэку можна прыйсці з любой прапановай пры вялікай верагоднасці, што яна здзейсніцца. Як, напрыклад, нядаўна было з карцінамі нашай зямлячкі Ніны Лятун: зрабілі яе выстаўку. Гэта мастацкая падзея прыбавіла бібліятэцы і аматараў чытання.

**— А бывае ж і так: бібліятэка сама «ходзіць» у народ?**

— Дакладней, ездзіць на ўжо добра вядомым у раёне бібліёбусе. «Калі вы не ідзіце ў бібліятэку, то бібліятэка ідзе да вас», — пад такім дэвізам працуюць супрацоўнікі раённай бібліятэкі, якія дастаўляюць кнігі па месцы жыхарства і працы. Яны рухаюцца па 13 маршрутах, часцей за ўсё накіроўваючы ў маланаселеныя аддаленыя вёскі. Летась такім чынам абслужылі 218 гараджан, якія карысталіся 6857 экзэмплярамі розных выданняў. Сярод вяскоўцаў аказалася 362 карыстальнікі, кнігавыдача для іх склала 6902 экзэмпляры.

**— Аксана Валер'еўна, падзяліцеся досведам вашай краязнаўчай работы.**

— Нашаму бацьку-Нёману сілы надаюць рачулкі, так і наша агульнае рэчышча добрых спраў сілкуецца рознымі кірункамі дзейнасці. Скажам, знакавым для бібліятэкі быў 1960 год, калі ёй прысвоілі імя Паўлюка Труса. З тае пары літаратурнаму краязнаўству — зялёнае святло. Шукаючы матэрыялы, бібліятэкары так пашырылі кола пры-хільнікаў, што хто толькі да края-знаўства ні далучыўся: мясцовае насельніцтва, школьнікі, пісьменнікі-земляки, сваякі і блізкія знакамітых людзей Уздзеншчыны. Супрацоўнікі бібліятэкі звярталіся ў архівы, шчыльна працавалі з абменна-рэзервовым фондам Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь. Летась своеасаблівым брэндам бібліятэкі стала адкрыццё краязнаўчай літаратурнай гасцёўні «У Паўлюка», якая стала мастком, што прывёў да нас яшчэ больш краязнаўцаў, бо людзей цікавіць роднае — гісторыя Радзімы, жыццё продкаў, свае карані. А ў бібліятэцы — унікальны фонд краязнаўчай літаратуры: кнігі, перыядычныя выданні, архіўныя матэрыялы, фотаздымкі, тэматычныя папкі-дасье, кнігі з аўтографамі, дакументы на электронных носьбітах. Усяго звыш 2 тысяч экзэмпляраў. Акрамя таго, запрашае інфармацыйна-краязнаўчы цэнтр «Там, дзе Нёмана выток — Уздзеншчына», разгорнуты розныя выстаўкі-экспазіцыі. Пачэснае месца ў краязнаўчым фондзе займае ўласная база дадзеных «Літаратурны скарб Уздзеншчыны» пра пісьменнікаў-землякоў, зробленая супрацоўнікамі бібліятэкі ў фармаце відэафільма.

Выдаём вялікія краязнаўчыя календары пры мецэнацкай падтрымцы прадпрымальніка А. І. Нікіткі. Календары прысвечаны знакамітым асобам Уздзеншчыны і значным гістарычным падзеям нашага краю.

**— Цікава даведацца, як на бібліятэчным сайце з'явіўся віртуальны літаратурны музей?**

— У 2015 годзе быў створаны бібліятэчны сайт *uzdalib.by,* які адпавядае сучасным патрабаванням распаўсюджвання інфармацыі праз бібліятэчныя інтэрнэт-рэсурсы. Тут сапраўды знаходзіцца віртуальны літаратурны музей, прысвечаны беларускаму класіку літаратуры, паэту-земляку Паўлюку Трусу. Музейная экспазіцыя складаецца з 15 раздзелаў, у якіх змешчаны біяграфічныя звесткі, архіўныя дакументы, лісты і фотаздымкі паэта, яго сяброў і родных. Унікальнымі «экспанатамі» віртуальнага музея сталі асабістыя рэчы Паўлюка Труса: фанерны куфэрак, драўляны пенал, рукапісны сшытак-газета «Низокская жизнь», першы зборнік вершаў «Ветры буйныя».

**— А яшчэ на Уздзеншчыне гавораць, што бібліятэкары ўмеюць упрыгожыць любое свята.**

— Права даваць ацэнкі нашай рабоце застаецца за чытачом. Але тое, што робіцца гэта з душой, — абсалютная праўда. У бібліятэцы назапашаны такі багаты матэрыял, што хочацца, каб яго бачылі людзі, ганарыліся нашай спадчынай, таленавітымі землякамі. Супрацоўнікі бібліятэкі рэалізуюць шматлікія акцыі, творчыя праекты, дабрачынныя праграмы. З вялікім поспехам праходзяць мерапрыемствы ў межах інфармацыйна-асветніцкай акцыі «Знаёмыя імёны — новыя сустрэчы», шырокі



водгук мае краязнаўчы праект «Мае землякі — мой гонар», вабіць цыкл выставак народных умельцаў «Залатыя рукі уздзенскіх майстроў». Збіраем удзячных чытачоў не толькі ў сценах бібліятэкі, але і на гарадскім стадыёне і гарадской пляцоўцы ля Палаца культуры, у летнім аздараўленчым лагеры «Вясёлка» ў в. Магільна, у сельскіх школах, Уздзенскім гісторыка-краязнаўчым музеі, Уздзенскім райвыканкаме. Наогул, бібліятэка — гэта ўстанова, якая не працуе адасоблена: з намі заўсёды ў звязцы творчыя партнёры.

**— А што гэта за «Літаратурная прышчэпка», атрымаць якую за гонар лічыць кожны?**

— Прыдумалі такую навацыю члены маладзёжнай творчай суполкі «Вясёлка». На першым пасяджэнні яны знаёміліся з творчасцю адзін аднаго так: напісалі свае вершы на аркушык са звычайнай бялізнавай прышчэпкай, памяняліся, а потым чыталі і здагадваліся, каму належыць верш. Ідэя спадабалася, і мы прэзентавалі гэты забаўляльны праект у мінулым годзе на раённым маладзёжным свяце «*Colorfest*». А далей — болей. Цяпер наша «Літаратурная прышчэпка» ў розным фармаце «працуе» амаль на кожным мерапрыемстве. Ёсць меркаванне, што пасля «Літаратурнай прышчэпкі» кола тых, хто «захварэў» чытаннем, пашырылася. І нас гэта вельмі радуе.

Разумеем, што моладзі трэба прапаноўваць нешта больш крэатыўнае. Раённы літаратурна-асветніцкі праект «Бібліятэка. Моладзь. Кніга» якраз і ўлічвае інтарэсы адоранай плыні пачаткоўцаў. Маладыя літаратары Уздзеншчыны аб'ядналіся ў суполку «Вясёлка». Заўважна, як моладзь і падлеткі пачалі актыўней выказваць свае думкі і меркаванні. Яны глыбей разважаюць аб прачытаных кнігах, больш крытычна аналізуюць. Да таго ж, прыводзяць на літаратурныя пасяджэнні сяброў-аднадумцаў.

**— На Уздзеншчыне не засумуеш. Ці праўда, што сам Кандрат Крапіва вам дыхту паддае?**

— Літаратурны скарб вядомага байкапісца, а яшчэ і сёлетні яго 120-гадовы юбілей, імпэту, безумоўна, дабавіў. У бібліятэцы створаны падворак Крапівы, дзе прадметы сялянскага побыту таго часу, кніжкі пісьменніка, яго знакамітыя героі. Тут жа, на падворку, кожны чытач мае магчымасць далучыцца да акцыі «Чытаем байкі Крапівы разам». У юбілейныя дні Кандрата Крапівы ў бібліятэцы ладзілася многа мерапрыемстваў. Зараз пачынаем рыхтавацца да раённага свята «Нізаўскі Парнас», на якім у верасні абяцаем чытачам прыемны сюрпрыз.

**Алена СТЭЛЬМАХ**

# Ад хаты-чытальні

**Хатаўнянская сельская бібліятэка, што на Рагачоўшчыне, — цэнтр культуры, інфармацыі і адпачынку ў вёсцы. Нядаўна кніжніца адзначыла 70-годдзе. Юбілею прысвяцілі тэматычны вечар «Бібліятэка: гісторыя і сучаснасць».**

Павіншаваць кніжніцу прыехалі ганаровыя госці: драматург, пісьменнік Віктар Купрыянчук, паэт і музыкант Сяргей Філіпчанка, паэт і мастак Міхаіл Міронаў.

Словы вітання выказала былы намеснік дырэктара Рагачоўскай раённай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы Нінэль Падгурская, якая ў свой час зрабіла вялікі ўнёсак у развіццё бібліятэчнай справы на Рагачоўшчыне.

З чаго ўсё пачыналася? Як узгадвае бібліятэкар першай катэгорыі Таццяна Лізунова, у галодны пасляваенны час, калі краіна ляжала ў руінах, духоўнае цанілі вышэй за матэрыяльнае. Першымі загадчыкамі хаты-чытальні ў вёсцы Хатоўня, распавядае бібліятэкар, былі Нічыпар Вараб'ёў, Антон Яфрэменка, Даніла Макаранка. Праводзілі калектыўныя чытанні кніг і газет, арганізоўвалі канцэрты, прапаноўвалі наведвальнікам гульні ў шашкі, даміно, ігралі на гармоні. У 1969 годзе хата-чытальняператворана ў бібліятэку. Выдатна адлюстроўвае мінулае і сённяшні дзень кніжніцы альбом «Гісторыя бібліятэкі як частка гісторыі вёскі».

Цяпер у кніжным фондзе больш як 10 тысяч адзінак бібліятэчных дакументаў. Імі карыстаюцца звыш 280 чытачоў, з якіх 60 дзяцей. Прыярытэтны напрамак у дзейнасці бібліятэкі — краязнаўчая работа.

Сярод актыўных чытачоў — Аляксандр Гарбачоў, Сямён Лопухаў, Нэля Камісарава, Тамара Пуськова ды іншыя. Частыя наведвальнікі і юныя вяскоўцы. Лепшым з іх па выніках года Таццяна Лізунова ўручае спецыяльныя дыпломы і падарункі.

**Міхась КАВАЛЁЎ**

# І чытай, і гуляй!

**Больш як паўметра ў вышыню «Атлас для малышоў», мініяцюрныя кніжачкі 5×7 см, кніжкі з «вочкамі», з фігурна выразанымі старонкамі, кнігі-пазлы, музыкальныя кнігі, кнігі з акенцамі, з гумовымі старонкамі (можна браць у ванну), кнігі з 3D-малюнкамі, дзе, нібы жывыя, паўстаюць рыцары ды замкі, звяры ды птушкі… Больш як 40 незвычайных выданняў прэзентавалася ў 8-й сталічнай дзіцячай бібліятэцы на выстаўцы «І чытай, і гуляй», што ладзілася ў межах Тыдня дзіцячай кнігі.**

Сёння, вядома, у дзіцячай кнігі шмат канкурэнтаў. Каб заставацца рэнтабельнымі, выдавецтвы вымушаны прыдумляць новыя формы дзіцячай кнігі. Гэта спрыяе і развіццю бібліятэк: новыя чытачы, цікавыя мерапрыемствы. Пазнаёміцца з навінкамі ў 8-ю бібліятэку завіталі малодшыя школьнікі, маленькія чытачы прыходзілі з бацькамі.

Найбольшай папулярнасцю карысталася кніга «Жабка-вандроўніца» з серыі «Лялечнае прадстаўленне для малышоў» выдавецтва «Робинс». У цэнтры старонкі — плюшавая галава лягушкі: з адваротнага боку можна прасунуць руку і кіраваць!

У хлопчыкаў самымі папулярнымі аказаліся кнігі пра рыцараў з аб'ёмнымі малюнкамі. А яшчэ — кніга «Караблі», старонкі якой высоўваюцца з кішэняў, і кніга становіцца ў чатыры разы даўжэйшай.

Ніхто не абышоў увагай выданне «Маленькі доктар» з пытаннямі і адказамі пра цела чалавека. Цацачным градуснікам, які прывязаны да кнігі, націскалі на адказы — аб правільнасці адказу абвяшчалі сігнал і лямпачка на носе намаляванага хлопчыка.

Не толькі чытаць, але і гуляць з кнігамі! Гэта надзвычай захапіла малых. Бацькі цярпліва чакалі, а часцей далучаліся да гульні.

Выстаўка стала такой папулярнай, што было вырашана працягнуць яе на нявызначаны тэрмін. Кожны мог прыйсці, паглядзець, пачытаць і пагуляць з кнігамі.

**Марына ПЕТРАШКЕВІЧ**

# *Arte + Factus*, альбо Спадчына на далоні

**Прааналізаваць артэфакты — задача не з лёгкіх, бо гэта носьбіты культурнай інфармацыі, часам цэлага яе пласта, дзе закладзена мноства значэнняў, сімвалаў, злучаюцца выдумка і гістарычны кантэкст, духоўнае і матэрыяльнае.**



*Рыгор Сітніца на адкрыцці арт-праекта «Прыватная археалогія».*

Беларускі мастак Рыгор Сітніца ўзяў у рукі аловак, паперу і... амаль літаральна правёў археалагічныя раскопкі, выцягнуў са схованак мінулага экспанаты, якія вартыя таго, каб захоўвацца ў музеях. Гэта фігуры святых, вершнікаў на конях, каралёў з посахамі, рыцараў падчас ці пасля бою. Асобным матывам — старажытныя, вытанчаныя мячы як сімвал мужнасці і самаадданасці продкаў.

Усе вобразы як быццам высечаны з медзі, каменя, дрэва. Кожная трэшчынка бачная, праглядаюцца ўсе шурпатасці і цені. Аб'екты рэальныя, толькі павялічаныя разоў у дзесяць. Маленькая старажытная манета памерам з акно — уяўляеце? Можна зазірнуць туды як у партал, перамясціцца ў часе, а можна проста паназіраць, атрымліваючы асалоду ад велічы.

### КАНЦЭНТРАЦЫЯ ГІСТОРЫІ

Новы арт-праект Рыгора Сітніцы «Прыватная археалогія» адкрыўся ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў, прыбыўшы з Масквы, дзе быў паспяхова паказаны ў Цэнтральным доме мастака на Крымскім Вале. Некаторыя работы датуюцца 2009 годам, ужо выстаўляліся, але ёсць і найноўшыя. Гэта не проста жывапіс, а своеасаблівае даследаванне, навукова-творчая праца. У цэнтры ўвагі майстра абсалютна на ўсіх работах — старажытныя артэфакты з беларускай нацыянальнай гісторыі. Адсюль і ўжо згаданыя манеты, і княжацкія пячаткі, і зброя з бранёй, і культавыя скульптуры. Шмат рэлігійнага сэнсу, вялікая канцэнтрацыя ўвагі толькі на адным, цэнтральным вобразе.

Багацце культуры паказана без строкатасці — коратка, лаканічна, нават, як гэта ні дзіўна для асабістага творчага праекта, аб'ектыўна. Мастак быццам кажа: «Паглядзіце — гэта наш фальклор, наша этнаграфія і гісторыя, бо мы — важная частка еўрапейскага культурнага кантэксту».

### БОЛЬШ, ЧЫМ РЭАЛІЗМ

У Рыгора Сітніцы своеасаблівая, арыгінальная стылістыка. З аднаго боку, усё выразна, без эклектыкі, колеравых «істэрык» з падсэнсамі і расслаенняў палатна на часткі. Гледзячы на карціну падоўгу, не губляеш першапачатковую ніць сюжэта. Ён не спрабуе здзівіць, а проста выказвае — прама, смела, павольна. З іншага боку, арт-праект «Прыватная археалогія» — гэта спалучэнне элементаў канструктывізму і супрэматызму, што адчуваецца ў рытміцы фарбаў, пабудове кампазіцыі, гіперрэалістычнай трактоўцы.

Мастак умела працуе з формамі. Культурныя аб'екты размешчаны на выразна акрэсленых геаметрычных плоскасцях, як правіла, чорна-белых, каб не адцягваць увагі. Так дасягаецца эфект дакументальнасці, канкрэтыкі, падкрэсліваецца глыбіня, маналітнасць сімвалаў ці знакаў. У той жа час карціны набываюць нейкі памежны стан, рэалізм, не губляючы сілы, дапаўняюцца рысамі новай рэальнасці, абстракцыі. Раўнавага ў тэхніцы суадносіцца з унутраным рухам выяў.



*«Артэфакт 1», 2009 г.*

### АДУХОЎЛЕНАСЦЬ РЭЧАЎ

Увага да беларускай гісторыі, клопат пра нацыянальныя каштоўнасці заўсёды былі характэрныя для творчасці Рыгора Сітніцы. Яшчэ падчас працы над вядомай выстаўкай «Гаспода. Суб'ектыўная рэчаіснасць» ён казаў, што займаецца выяўленнем метафізічнай сутнасці рэчаў. Малюючы бульбу, плот, дах дома альбо дровы, ён не піша нацюрморты, а пранікае ў сутнасць рэчаў, уяўляючы, што ў кожнай з іх свой мікракосмас. Мастак пазіцыянуе сябе ў першую чаргу як графік, але, дарэчы, ён яшчэ і выдатны паэт. Арт-праект «Прыватная археалогія» рэкамендуецца ўсім, хто ўмее ці жадае навучыцца паглыбляцца ў самую сутнасць, весці дыялог не толькі з сабой, але і з рэчаіснасцю.

**Марыя ВОЙЦІК,**
**фота аўтара**

# Творца пераломнага часу

У мастака Уладзіміра Акулава тры ўзаемазвязаныя пункты ў жыцці: нарадзіўся ў 1954 г. у Баранавічах. Вучыўся на мастацка-графічным факультэце Віцебскага педінстытута (1976 — 1980), прынцыпова вызначыўся як мастак-экспрэсіяніст у Мінску з другой паловы 1980-х гг. Уся яго жывапісная творчасць прасякнута ўнутранай неўтаймаванасцю і нежаданнем трымацца агульнапрынятых норм. Гэтую пазіцыю можна зразумець, калі прыгадаць, з чаго пачынаўся яго мастацкі шлях. 30 гадоў таму ціхмянае жыццё «ўзарвалася» Чарнобыльскай трагедыяй, а потым пачалася вельмі неспадзяваная культурная перабудова. Па сутнасці, адбыўся моцны творчы зрух, раскол, непахісныя муры «расступіліся», і можна было даць волю рашучай эксперыментальнай натуры, выказацца з пэндзлем па многіх набалелых праблемах.

Уладзімір Акулаў глыбока ўспрыняў свабодную форму самавыяўлення, абумоўленую тым драматычна-напружаным пераломным перыядам, і дагэтуль захоўвае творчыя прынцыпы, народжаныя тады ў віры выставачных праектаў, далёкіх вандровак па свеце, у атмасферы гарачых спрэчак і дыскусій. Яго аўтарскі стыль можна акрэсліць як непасрэднае праяўленне спантаннага экспрэсіянізму, сфакусіраванага на вонкавы і ўнутраны свет асобы, яе сувязей з натуральным фітаморфным і зааморфным асяроддзем. Яго падкрэслена брутальная трактоўка вобразаў — выклік салоннасці, што паступова, з 1990-х гг., пачынае дыктаваць многім мастакам камерцыйныя ўмовы і прыніжаць крытэрыі навізны. А Уладзімір Акулаў у сваёй сціплай і нерэспектабельнай майстэрні ў лепшых традыцыях андэграўнду множыць творы, напісаныя нібы ў нервовых канвульсіях, у стане роспачы ці неўтаймаванага хвалявання.

Найбольш шматлікімі становяцца цыклы партрэтаў і аўтапартрэтаў. Магчыма, салонныя наведвальнікі не ведаюць і дагэтуль, што зусім побач жыве і актыўна працуе рэдкі для нашага часу пераломна-



перабудовачны экспрэсіяніст. Але добра яго ведаюць калекцыянеры, бо «акулаўскія» экспрэсіі знайшлі належнае месца ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, Музеі сучаснага рускага мастацтва ў Нью-Джэрсі (ЗША), Музеі Палацава-паркавага ансамбля Румянцавых-Паскевічаў у Гомелі, Слуцкай галерэі мастацтваў, Полацкай мастацкай галерэі Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка і інш. Можна сказаць, што для будучых пакаленняў спадчына мастака не знікне ў нябыт і будзе добра прадстаўлена, бо яго вага расце цяпер з кожным годам. Пераломным для шырокага прызнання мастака былі экспазіцыі яго твораў апошніх гадоў: персанальная выстаўка «Месцазнаходжанне» ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (2013 г.) і персанальная выстаўка да 60-годдзя мастака ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі (2014 г.).

Зараз паспяхова праходзіць персанальная выстаўка мастака «Вітражы часу» з прыватнай калекцыі Яўгенія Ксяневіча ў Віцебскім мастацкім музеі (7 красавіка — 11 мая 2016 г.). Гэта вяртанне ў горад творчага юнацтва ўжо вядомага ў нашай краіне мастака-нонканфарміста, які застаўся верны сваім прынцыпам і перамог у сцвярджэнні індывідуальнай творчай свабоды. Акулаў непаўторны, ён застаецца самабытным і рашучым эксперыментатарам.

На сучаснай творчай глебе ён па-свойму экспромтна злучае і інтэрпрэтуе вобразныя асацыяцыі віцебскага мадэрнізму 1920-х, суцінскія згадкі «Парыжскай школы», іранічную гратэскавасць нямецкага неаэкспрэсіянізму 1980-х гг. і пашырае пры гэтым творчыя далягляды, пра што сведчыць распачатая ў 2008 годзе яго вялікая серыя «Усход». Жывапісныя творы з гэтай серыі 2010 г. «Зіма. Японія», «На рысавым полі. Японія», «Мангольскі воін», «Пад знакам цяля», «Падарожжа ў Егіпет», «Цёплы вечар» упершыню экспанаваліся на персанальнай выстаўцы ў Віцебскім мастацкім музеі.

У мастака назіраецца новае дыханне. І нездарма. Мы зараз ізноў апынуліся на абвостраным пераломе часу, калі мастак павінен выказацца па самых розных актуальных праблемах, глыбока зазірнуць у духоўны стан сучаснікаў.

**Яўген ШУНЕЙКА**

# Цяжка быць Зеўсам

**Сёння мужчына лёгка можа ўявіць сябе роўным антычнаму богу. Калі ёсць пэўная ўлада, якую даюць грошы і статус. Новы спектакль Беларускага дзяржаўнага маладзёжнага тэатра «Дваяжэнец» у пастаноўцы Генадзя Мушперта знаёміць гледача з «богам-алімпійцам» сучаснасці Лаймэнам Фэлтам і яго філасофіяй, адначасова геданістычнай і альтруістычнай…**

Як ператварыць бытавую меладраму ў высокую драму пра экзістэнцыяльны выбар чалавека? На гэтае пытанне адказа амерыканскі драматург Артур Мілер, аўтар п'есы «Спуск з гары Морган». Калі ў 1991 годзе Мілер напісаў п'есу пра феномен дваяжэнства, яму было семдзесят шэсць гадоў, за плячыма — два шлюбы, у тым ліку — з непараўнальнай Мэрылін Манро. І вось мэтр драматургіі робіць галоўным героем новай п'есы паспяховага шчаслівымі, ды такімі, як бы «самі ніколі ў жыцці не выдумалі». Паводле слоў Лаймэна, гэта ён, абцяжараны ведамі пра сапраўднае становішча рэчаў, быў вымушаны адчуваць тое, што адчувае Гасподзь Бог, «калі глядзіць на шчаслівых людзей, ведаючы пра разарваныя сасуды і метастазы». І ўсё ж сумленне не дае спакою Лаймэнавай душы, што аддзяляецца ад закутага ў гіпс цела і здзяйсняе метафізічнае надпісам «*MORGAN*». Натуральна, гэта тая самая злашчасная гара, літаральнае падзенне Лаймэна з якой стала метафарай яго маральнага падзення. А хтосьці ўбачыць замест засыпанай снегам гары белы вясельны гальштук… Або мініяцюрную копію гары Алімп для мініяцюрнага Зеўса-Лаймэна.

На паверку ўсемагутны «Зеўс» аказваецца смяротным, слабым чалавекам, задушаным страхам смерці да той ступені, калі пачынаеш хапаць залішне паветра і жыцця, — адбіраеш іх у іншага; калі патрэба ў самасцвярджэнні любым спосабам — я ёсць, я самы жывы сярод жывых! — абарочваецца трагедыяй і слязьмі родных. Лаймэна, як Гамлета, наведвае прывід бацькі, за якім рыўкамі цягнецца шлейф жалобнага полага —



Сцэна са спектакля «Спуск з гары Морган».

прадпрымальніка ў сферы страхавання, пяцідзесяцігадовага альфа-самца і мужа адразу дзвюх жанчын.

Лаймэн (спалучэнне англійскіх слоў «*lie*» («хлусня») і «*man*» («мужчына»)) факт дваяжэнства ўдала хаваў ад жонак цягам дзевяці год. Юбілейны адзначыць не давялося: спрытны ашуканец зляцеў на аўтамабілі з гары Морган, трапіў на бальнічны ложак і ў гіпсавы панцыр. Нерухомы, слабы ад наркозу, ён не можа прадухіліць фатальнай сустрэчы. У бальнічным прыёмным пакоі сутыкаюцца: місіс Фэлт «намбар уан» з Нью-Ёрка — сарамлівая арыстакратка Тэа з яе і Лаймэна замужняй дачкой Бэсі — і місіс Фэлт «намбэр ту», маладзейшая за Тэа разняволеная правінцыялка Лія, маці маленькага Бэн-джаміна, які сваім нараджэннем паклаў пачатак бацькавай шлюбнай аферы. Можна спраектаваць гэтую казытлівую сітуацыю на свет антычнай міфалогіі: Зеўс па нейкай прычыне страціў магутнасць вярхоўнага боства, і перад ложкам бездапаможнага Грамабоя адбылося нечаканае знаёмства Геры і якой-небудзь са спакушаных юрлівым богам дзяўчын — Еўропы, напрыклад.

З моманту раскрыцця падману сямейнае шчасце Лаймэна, Тэа і Ліі саступае месца індывідуальным для кожнага пакутам. Абражаная і разгубленая Тэа намагаецца захаваць жаночую годнасць, спрабуе зразумець матывы Лаймэна і не можа: для дачкі святара манагамія — святое. Для Ліі, якая ўяўляла, што выходзіць замуж за разведзенага мужчыну, праўда пра Лаймэна — таксама страшэнны ўдар. Разам з тым больш за ўласныя пачуцці яе хвалюе іх з сынам будучыня. Лаймэн шкадуе жанчын, але знаходзіць сабе апраўданне: дзякуючы яму ўсе сталі падарожжа ў прасторы і часе, нібы герой дыкенсанаўскай «Каляднай песні» чэрствы сэрцам багацей Скрудж.

Ролю дваяжэнца з п'есы Мілера на сцэне бліскуча выканаў акцёр Яўген Іўковіч. Падобнае амплуа ў яго было ў спектаклі «Казіны востраў» Іскандэра Сакаева. Там акцёр паўстае ў вобразе абаяльнага прайдзісвета і бабніка, які неасцярожна гуляе пачуццямі некалькіх жанчын і за гэта дорага плаціць. Як і ў «Казіным востраве», у «Дваяжэнцы» партнёрамі Іўковіча па сцэне і калізіях кахання выступаюць Наталля Анішчанка (Тэа) і Анастасія Салаўёва (Лія). Цяпер яны не маці і дачка, што сапернічаюць за аднаго мужчыну, а незалежныя заможныя лэдзі вышэйшага свету. Іх статуснасць закліканы падкрэсліць касцюмы, створаныя мастачкай Вікторыяй Ця-Сэн пад уражаннем ад апошняй моднай калекцыі знакамітага амерыканскага мадэльера Майкла Корса.

Яркія дэталі вопраткі — напрыклад, чырвоныя боцікі Наталлі Анішчанка — вылучаюць акцёраў на фоне прыдуманай мастаком-пастаноўшчыкам Вольгай Грыцаевай манахромнай дэкарацыі. На працягу дзвюх дзеяў яна не змяняецца: перамяшчэнні герояў у іншае месца ці мінулае адбываюцца ў тым жа белым бальнічным пакоі, ахутаным шчыльнай цемрай. Абсалютны кантраст белага і чорнага — нібы ўвасаб-ленне прынцыповай пазіцыі жанчыны ў справах кахання і сям'і. Кантраст выкрывае любімыя эгаістычнымі мужчынамі паўтоны, паўпраўды, баязлівае змешванне чыстых фарбаў. Над гарызанталлю бальнічнага ложка з перабінтаваным манекенам — «целам» Лаймэна — падымаецца вертыкаль звужанай дагары канструкцыі, якую вянчае шыльда з паўзе сама смерць. Падчас кароткіх, але запамінальных праходак бацькі ў выкананні Віктара Васільева, здаецца, запавольваецца ток крыві па венах. Фінал спектакля «разрывае шаблон»: пакінуты ўсімі Лаймэн размаўляе над аповедам сядзелкі (Раіса Сідорчык) пра тое, як яны з мужам на падлёднай рыбалцы размаўляюць пра чаравікі. А зразумеўшы простых і мілы сэнс гэтай гісторыі, садзіцца на велатрэнажор і круціць педалі. Магчыма, спяшаецца на сустрэчу з сабой — іншым, лепшым Лаймэнам.

Цэласную форму спектакля ўласным і мілераўскім арыгінальным ходам надаў рэжысёр-пастаноўшчык Генадзь Мушперт, ён жа галоўны рэжысёр Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра. «Дваяжэнец» — другая па ліку пастаноўка Мушперта ў Маладзёжцы. Першая, пад назвай «Заспетыя знянацку каханнем» паводле Вудзі Алена, таксама мела тэмай матрыманіяльныя адносіны і вернасць у шлюбе, аднак прапаноўвала палегчаны праз фірмовую «вудзіаленаўскую» іронію погляд на гэтыя няпростыя з'явы. У «Дваяжэнцы» аналагічныя ў нечым праблемы разглядаюцца з дапамогай сродкаў псіхааналізу на ўзроўні ўнутранага канфлікту асобы, схаваных механізмаў несвядомага.

Важным момантам стала «супадзенне» выканаўцы галоўнай ролі Яўгена Іўковіча з матэрыялам і рэжысёрам. Па прызнанні абодвух, падчас рэпетыцый працавалі ў тандэме і ад гэтага лавілі кайф. Безумоўна, яго атрымае і глядач. Магчыма, не кожны. Але той, хто раскрые «фішкі» спектакля, не будзе падмануты легкаважнай назвай і здолее ўбачыць пасыл драматурга.

**Паліна ПІТКЕВІЧ**

# Лялечны тэатр для дарослых

**14 спектакляў лепшых калектываў Ізраіля, Польшчы, Літвы, Украіны, Расіі і Беларусі прадставіць IX Міжнародны фестываль тэатраў лялек з 13 па 17 мая. Форум адбываецца раз у два гады і заўсёды мае на мэце пазнаёміць гледачоў з тэатральнымі тэндэнцыямі пэўнай краіны, робячы ўпор на яе спектаклі. Летась гэта была Польшча, цяпер — Расія.**

Дзве пастаноўкі, прывезеныя адтуль, заслугоўваюць асаблівай увагі: «Ваня. Казка пра Ваню і загадкавую рускую душу» санкт-пецярбургскага тэатра «*Karlsson Haus*» і «Забіць Караля» Пензенскага абласнога тэатра «Лялечны дом». Абодва спектаклі — лаўрэаты Расійскай Нацыянальнай тэатральнай прэміі «Залатая маска», а «Ваня» беларускага рэжысёра і адначасова мастацкага кіраўніка фестывалю Аляксея Ляляўскага — яшчэ і лаўрэат Вышэйшай тэатральнай прэміі Санкт-Пецярбурга «Залаты Сафіт».

Аляксей Ляляўскі адзначае:

— Для ўсякага фестывалю вызначальныя пляцоўкі, якасць таго, што можа быць на іх прадстаўлена, і грошы, якія трэба заплаціць, каб гэтая якасць была прадстаўлена. З пляцоўкамі ў Мінску лепш, чым было раней. Што датычыць якасці, яна залежыць у тым ліку ад ідэі фестывалю, якую мы самі сабе фармулюем: у апошнія гады стараемся найбольш поўна прадставіць адну з краін-удзельніц. Яшчэ адзін момант, які кіруе намі пры складанні праграмы, — прынесці практычную карысць тым, хто працуе ў тэатры лялек. Крытыкі ацэньваюць становішча беларускага тэатра лялек як добрае, але гэта не азначае, што так будзе заўсёды. Той, хто звязаны з тэатрам лялек, павінен думаць, што рабіць далей, таму на фестывалі мы стараемся паказаць, што адбываецца ў нас, а што — навокал, каб было відаць, што мы можам, а што — не. Трэці фактар — гэта грошы. Для любога фестывалю, асабліва міжнароднага, вельмі значная яго рэгулярнасць. Можна правесці раз у дзесяць год цудоўны фестываль, але потым пра яго забудуць, а можна зменшыць амбіцыі і зрабіць максімум з магчымага, каб ён адбыўся.

Сёлета акцэнт зроблены на пастаноўкі для дарослых: іх прэваліраванне характэрна для сучаснага тэатра лялек. Большая частка айчынных спектакляў форуму маюць за першакрыніцу класічныя літаратурныя творы М. Горкага, А. Чэхава, Н. Макіявелі, А. Платонова, Ж. Лафантэна. У афішы беларускай праграмы можна знайсці імёны рэжысёраў Руслана Кудашова, Яўгенія Карняга, Ігара Казакова, Юрыя Дзівакова, Алега Жугжды. Дзіцячыя спектаклі фестывалю вылучаюцца незвычайнай формай і філасофскім зместам. Пераклад для дзетак будзе сінхронным.

Журы сёлета не прадугледжана, але ў рамках форуму будзе працаваць дыскусійны клуб, у якім гледачы, крытыкі і журналісты змогуць пагутарыць пра пастаноўкі (пачатак абмеркаванняў будуць абвяшчаць перад кожным спектаклем). Дадатковае мерапрыемства — вечарына тэатральнай музыкі «Лялечны рок-н-рол» ад гурта «Нагуаль». Для гледачоў падрыхтавана эксклюзіўная праграма з кампазіцый, напісаных спецыяльна для тэатраў лялек. Таксама калектыў ізраільскага тэатра «Кей» зладзіць майстар-клас для студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Беларускаму дзяржаўнаму тэатру лялек праз два гады споўніцца восемдзесят год, фестывалю — дзесяць. На прэс-канферэнцыі арганізатары падзякавалі і дзяржаве, і гледачам за падтрымку. Будзем спадзявацца, што форум дажыве да юбілею і будзе існаваць далей.

**Настасся ВАСІЛЕВІЧ**

# З любоўю і пагардай

## Канскі кінафестываль: адкрыццё з адсылкай да класікі кінематографа

Вудзі Ален прысвяціў фільм Галівуду 1930-х гадоў мінулага стагоддзя. А дырэкцыя ці не самага прэстыжнага кінафестывалю яго меладраму «Свецкае жыццё» з Крысцен Сцюарт і Джэсі Айзенбергам зрабіла стужкай адкрыцця (трэці раз гэты рэжысёр мае такі гонар). Сапраўды, аўтарскі стыль Алена, лёгкасць і тонкі гумар, з якім ён закранае сур'ёзныя і нават балючыя тэмы, ствараюць неабходны фон для фестывалю, калі кіно ўспрымаецца як свята. Прынамсі, яшчэ.

Таму што потым, падчас праглядаў фільмаў, будзе нагода зразумець кіно і як даволі напружаную працу, якая часам нагадвае складаныя хірургічныя аперацыі па выдаленні злаякасных пухлін ці намаганні па рэанімацыі чалавека (альбо грамадства). І будзе нагода разважаць пра тое, што дае чалавецтву гэтае мастацтва, якія ідэі прапануе асэнсаваць, што адметнага заўважае ў чалавеку. Калі яно з'яўляецца люстэркам жыцця, то людзі могуць паглядзець на сябе збоку, парадавацца ці жахнуцца ад саміх сябе. Гэтаму мастацтву падуладныя нават глыбокія філасофскія развагі, якія прапануюцца ў вытанчанай вобразнай форме.

Ці не дзеля таго, каб падкрэсліць максімальную засяроджанасць на сэнсах сучаснага кіно, галоўны вонкавы вобраз Канскага кінафестывалю дае адсылку да кінарэжысёра-філосафа Жан-Люка Гарада і яго стужкі «Пагарда» (1954 год), дзе было пастаўлена пытанне пра выбар для рэжысёраў: здымаць у камерцыйным кірунку, падпарадкоўваючыся густам шырокай публікі і патрабаванням прадзюсара, ці прапаноўваць гледачу аўтарскае выказванне ў той форме, якая дазволіць раскрыць больш глыбокі сэнс. І тут, як і ў фільме Алена, узгадваецца прыкладна той жа час у развіцці кінематографа (толькі ў Гадара ў асобе славутага нямецкага кінаэкспрэсіяніста Фрыца Ланга). Але гэта быў час, калі ў развіцці кінематографа сцвярджаліся дзве выразныя лініі: прадзюсарскае і аўтарскае кіно, якое ўзнімала яго да ўзроўню высокіх мастацкіх узораў.

Пра развіццё сусветнага кінамастацтва мяркуюць цяпер па выніках Канскага кінафестывалю. Яго чакаюць і ўлюбёныя ў кіно гледачы, і кінамайстры — каб зразумець, якія тэндэнцыі ў сучасным кіно. І, вядома, паглядзець на тых зорак, якія праходзяць па чырвоным дыванку Палаца фестываляў і кангрэсаў. Кінафестываль на Лазурным беразе Міжземнага мора ўжо 69-ы раз збірае выдомых рэжысёраў Еўропы, Амерыкі, Азіі, Афрыкі, Аўстраліі — ён рэальна сусветны.

Сярод тых, на каго асаблівая скіраваная ўвага ў найбліжэйшыя два тыдні, пакуль ідзе фестываль, — члены журы. Яны вызначаць лёс галоўных узнагарод фестывалю, сярод якіх «Залатая пальмавая галінка» і «Сярэбраная пальмавая галінка». Пераможцу 69-га кінафестывалю назаве аўстралійскі кінарэжысёр Джордж Мілер, які год таму вярнуўся ў вялікае кіно менавіта ў Канах з фільмам «Шалёны Макс. Дарога лютасці». Яго партнёрамі ў журы сталі Кірстэн Данст, Мадс Мікельсэн, Валерыя Галіна, Арно Дэплешэн, Ванэса Парадзі, Ласла Немяш, Дональд Сазэрленд, Катайун Шахабі.



Кадр з фільма Вудзі Алена «Свецкае жыццё».

Што значыць фестываль класа «А» ў выкананні канскіх арганізатараў, варта разумець праз праграмы, якіх, па-першае, даволі шмат, а па-другое, у кожнай суквецце імёнаў.

У асноўнай конкурснай праграме ўдзельнічае 20 фільмаў з розных краін. Спаборніцтва будзе напружаным: тут, у прыватнасці, карціны Джыма Джармуша, Кена Лоўча, Пэдра Альмадовара, Пола Верховена, Шона Пэна, братоў Дардэнаў і іншых вядомых майстроў кіно.

Адметны конкурс «Асаблівы погляд» (20 стужак з арыгінальнай тэмай і выкананнем). Тут новая стужка Хіракадзу Карээды, фільм Эрана Колірына, вядомы па Венецыянскім кінафестывалі, праца ў поўнаметражным кіно ўладальніка «Оскара», вядомага аніматара Майкла Дадока дэ Уіта, стужка расійскага рэжысёра Кірыла Сярэбранікава з арыгінальнай назвай, якая без перакладу гучыць як «(М)ученик», і шмат адкрыццяў.

Конкурс праграмы, дзе прадстаўлены фільмы, знятыя ў «кароткім метры», мае іншае журы і асобны прыз. Але гэта паказы ў рамках Канаў, што, адпаведна, надае ўвагу фільмам, да таго ж сам іх фармат узнімаецца ў разуменні гледача да ўзроўню закончанага кінавыказвання, што разглядаецца ў кантэксце мастацтва.

Наогул, праграм у Канах вельмі шмат на любы густ, акрамя стужак, што дэманструюцца ў галоўнай зале (тэатры «Люм'ер») таксама па-за конкурсам (сёлета тут фільмы Стывена Спілберга «Вялікі і добры велікан» і Джодзі Фостэр «Фінансавы монстр»).

«Канская класіка» нагадае лепшыя карціны мінулых гадоў, прадставіць стужкі, прысвечаныя дзеячам кіно. Розныя аспекты кіно раскрываюць у «Паралельных секцыях».

«Сінефандасьен» знаёміць з кінашколамі свету. Яшчэ адна — «Сусветнае кіно» — адлюстроўвае разнастайнасць кінематографа: штодня нейкая краіна прадстаўляе нацыянальны кінематограф.

У цёплыя дні на ўзбярэжжы мора знойдуцца і тыя, хто захоча паглядзець «Кіно на пляжы», — бясплатна і на вялікім экране класіка фестывалю.

Але колькі б ні было праграм за амаль два тыдні, пакуль доўжыцца фестываль, асноўнай інтрыгай будзе лёс галоўнай узнагароды. Упершыню ў гісторыі на закрыцці Міжнароднага кінафестывалю ў Канах сёлета будзе дэманстравацца фільм, адзначаны «Залатой пальмавай галінкай». І вось тут ёсць нешта вельмі знаёмае нам, жыхарам Беларусі. Таму што раней такая практыка была на кінафестывалі «Лістапад», калі на закрыцці дэманстраваўся фільм-пераможца, праўда, паводле глядацкага галасавання. Але сам падыход, як высвятляецца, слушны.

**Марыя АСІПЕНКА**

### Што агульнага ў «Лістапада» і Канскага кінафестывалю?

**1.** «Лістапад» у новым фармаце сваёй структурай і імкненнем прадстаўляць шмат рознанакіраваных праграм хоча набліжацца да ўзораў фестываляў класа «А».

**2.** Некалькі конкурсаў, некалькі складаў журы.

**3.** На «Лістапад» усё часцей адбіраюцца фільмы, якія дэманстраваліся ў розных праграмах Канскага кінафестывалю, таму імёны некаторых рэжысёраў беларускаму гледачу добра вядомыя. У нас нават былі агульныя пераможцы: фільм Кена Лоўча «Вецер, які калыша верас». Некаторыя імёны наогул як свае. Адна справа, калі гаворка пра Сяргея Лазніцу і яго стужку «У тумане», знятую паводле Васіля Быкава з удзелам «Беларусьфільма».

Але ж, напрыклад, румынскі рэжысёр Крысціян Мунджыу вядомы па фільме «За ўзгоркамі», які быў адзначаны высока як у Канах, так і ў Мінску (а сёлета прадстаўляе «*Bacalaureat*»). Нашы гледачы мелі магчымасць раней пазнаёміцца ў рамках «Лістапада» з фільмамі іншых рэжысёраў, якія сёлета ўдзельнічаюць у асноўным конкурсе Канскага кінафестывалю. Таму можна сачыць, як адзначаць новую работу Жан-П'ера Дардэна і Люка Дардэна «Незнаёмка», а таксама стужку Ксаўе Далана «Гэта ўсяго толькі канец свету» ці Аліўе Асаяса і яго «Персанальнага пакупніка». Каго мы ўжо пазнаём у твар, дык гэта Брыянтэ Мендосу, які летась у Мінску правёў майстар-клас, а сёлета прадставіць у Канах карціну «*Ma'Rosa*».

**4.** Наогул, ёсць асобы, да якіх захоўваецца цікавасць у абодвух фестываляў. Актрысу Наамі Кавасэ беларусы ведаюць па леташнім «Лістападзе», а сёлета яна стала старшынёй журы праграмы «Сінефандасьен» і конкурсу кароткаметражных фільмаў.

**5.** Дырэкцыя «Лістапада» сочыць за падзеямі фестывалю, што праходзіць на Лазурным беразе Францыі, падбіраючы фільмы для мінскай праграмы.

# Асобны герой

## Мітрый Сяменаў-Алейнікаў: хто з ім «адной крыві»?

Хварэем за нашых! — такі падыход сёлета дарэчы, таму што ў конкурсе кароткаметражных стужак у Канах ёсць беларуская прысутнасць. Пра тое, што фільм «Адной крыві» маладога рэжысёра Мітрыя Сяменава-Алейнікава прайшоў праз сіта адбору і трапіў у конкурсную праграму, мы паведамлялі.

Але цяпер вядома, якое спаборніцтва чакаецца ў гэтым конкурсе: 650 стужак — і толькі адна з Беларусі. Нашы суседзі прадстаўлены больш шырока: напрыклад, расіяне атрымалі права на паказ 18 фільмаў, украінцы — 7.

Тым не менш наш фільм ужо мае свой фестывальны лёс (адзнакі на кінафорумах у Вене, у Румыніі, ЗША, Канадзе, Расіі і іншых краінах). Гэта і адзнакі жадання сур'ёзна працаваць у кіно маладога рэжысёра, які здымаў фільм за ўласныя сродкі. Наш глядач гэта таксама ацаніў, таму што стужка была прадстаўлена на фестывалі «Бульбамуві» і на Нацыянальным конкурсе ў рамках «Лістапада». Гэта кранае, таму што распавядаецца вельмі жывая гісторыя двух братоў, якія па-рознаму глядзяць на рэчаіснасць (нашу ці не — нават не пытанне, таму што ў сучасным свеце такое магло б адбыцца ў любой краіне).

Сам адбор на Канскі фестываль — таксама высокая адзнака, якая цяпер будзе суправаджаць гісторыю фільма «Адной крыві».

**Марыя АСІПЕНКА**

# Выйсці ў людзі

Яшчэ ў 2011 годзе Беларусь упершыню заявіла пра сябе на прэстыжнай еўрапейскай пляцоўцы ў Канах, засведчыўшы, што кіно ў нас ёсць, і вартае. Нацыянальны павільён Беларусі быў арганізаваны па ініцыятыве Міністэрства культуры. Знаёмства сусветнай кінематаграфічнай супольнасці з нашай краінай пачалося з прэзентацыі каталога беларускіх фільмаў, дэманстрацыі тэхнічных магчымасцей кінастудыі «Беларусьфільм»... Была заўважана цікавасць да Беларусі з боку Еўрапейскай асацыяцыі кінаўтвораў. А далей?

Два гады таму Беларусь яшчэ ўдзельнічала ў Канах, у чацвёрты раз. Да арганізацыі далучылася недзяржаўная кінастудыя *Nonstop MEDIA*. Для прэзентацыі было адабрана больш за 20 фільмаў. Шукалі партнёраў з боку прадзюсараў і кінаўтворчых кампаній, прадстаўлялі магчымасці айчыннага кіно. Пра нас даведваліся, напрыклад, па фільме «Белыя росы. Вяртанне» Аляксандра Бутар. Але ў большасці — па дзіцячых стужках і анімацыі: ад «Кіндэрвілейскага прывіду» Алены Туравай да «Ронда-капрычыёза» Ігара Волчака. Вызначылася і студыя «Летапіс».

Летась павільёна ўжо не было, але сумесны французска-беларускі фільм прэзентавалі. «Тры ўспаміны з маёй маладосці» Арно Дэплешэн здымаў часткова ў Мінску, узнаўляючы атмасферу 80-х гадоў. Пасольства Беларусі ў Францыі падключылася да перамоў з французскай кінакампаніяй «*B-Tween Production*» аб рэалізацыі далейшых партнёрскіх праектаў. Між іншым, гэты фільм — вынік перамоў мінулых гадоў менавіта ў Канах.

Шкада, што сёлета няма працягу. Умовы для інтэграцыі нацыянальнага кінематографа ў міжнародныя рынкавыя механізмы (а гэта заяўлялася адной з мэт адкрыцця нацыянальнага павільёна) пакуль што не выспелі. Тым не менш сусветны досвед рэфармавання кінасферы мы можам пераймаць, нават за заслонай.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Скрыпічная тэма

*Некаторыя падзеі нашага музычнага жыцця, асабліва непрадказальныя, іранічна-тонка і далікатна-здзекліва ўмешваюцца ў ледзь жывую статычнасць паўсядзённасці.*

*Мы неяк адразу мяняемся, нясмела азіраемся, шукаем падтрымкі здагадкам, каб новы эмацыянальны фон лагічна ўпарадкаваць з прычыны раптоўнай перамены сэнсаў. Падзеі — што вецер, падзеі — што служанка на фрэсцы Бацічэлі, дзе статычна ўсё — акрамя яе самой. І дзень мяняецца, ператвараецца ў загадку-здагадку-адгадку. І мы пагаджаемся з гэтым. А як яшчэ спасцігнуць стыхійны дух, не зірнуўшы на рэльеф пад сваімі нагамі?*

*Велічным абрысам гары, побач з якой жывём, здзівіцца цяжка. Мы занадта блізка да яе. Поруч. Горы сярод нас. І мы іх не бачым. Але чуем хвалюючае жыццё ў нетрах тых гор. Інакш бы не хвалявалася так душа ад прызнанай вышыні і не апраналася ў адзенне здзіўлення.*

*Прысвячэнне Алегу Подаву, канцэртмайстру Дзяржаўнага камернага аркестра Рэспублікі Беларусь, ад узрушанага і захопленага слухача з нагоды канцэрта 10 красавіка 2016 года на сцэне Вялікай залы Белдзяржфілармоніі.*

## СВІТАЛЬНЫЯ ХАРАЛЫ

Ён выйшаў на Нямізе. Стары горад зірнуў белымі сценамі збудаванняў. Чыстае, свежае і яшчэ халоднае ранішняе неба дыхнула пругкай радасцю. Празрыстае паветра абняло, апякло вочы, прымусіла зажмурыцца. Бліскучая раніца. Танальнасць ля-бемоль мажор. Эцюд трансцэндэнтнага выканання.

За ноч Стары горад паспеў вызваліцца ад ліпкага шалупіння шматслоўнасці гарадскіх жыхароў, ад недарэчных размоў з недаспелымі думкамі, ад шэрай набрыдзі — меркантыльнай жуйкі, якая, ліпнучы да сцен, лёгка іх забруджвае і, што самае непрыемнае, зависае ў паветры, перакотваецца сівымі шарамі па брукаваных сцежках і ніяк не хоча вымятацца злоснымі вулічнымі скразнякамі. Ранкам Стары горад светлы, сцішаны і ўрачысты.

На сваю работу-службу скрыпач, артыст аркестра, ходзіць пехам. Выходзіць з дому задоўга да пачатку аркестравай рэпетыцыі з тым, каб заспець Стары горад вось такім — некранутым чалавечай будзённшчынай. Разам з ім — скрыпачка, звыклая да рытмічнай хады музыканта, ціха пагойдваецца ў хованцы-футарале.

Ціша гэтым часам празрыстая. Варта спыніцца, і можна пачуць, як набрыняла яна за ноч музыкай. Нырнуўшы ў празрыстую цішу, як у метафізічную рэальнасць непраяўленых варыянтаў, можна пачуць незлічоную колькасць разнастайных і каляровых мелодый. Белыя сцены струменілі дзіўныя графічныя фігуры, якія і былі мелодыямі. Гукавыя рэльефы вытанцоўвалі бездакорны разначасавы і рознаэпохавы кантрапункт: «Кампазіцыя, — успомніў артыст аркестра Генрыха Шутца, — гэта навука складаць гарманічны кантрапункт з добра злучаных між сабой кан- і дысанансаў».

Гэта былі шчаслівыя імгненні асалоды — збіраць са сцен, эркераў, чапцоў, двухсхільных дахаў чароўныя сугуччы мадрыгалаў часоў… напрыклад, каралевы Боны. Напэўна, гэтак жа шалёна і апантана ў свой час Абі Варбург збіраў сваю фларэнтыйскую бібліятэку, рызыкуючы захлынуцца нечаканым багаццем і плыннасцю фларэнтыйскіх крыніц.

Старыя вуліцы горада паблісквалі вільготнай бруканкай. Блукаць, кружляць, спыняцца і ўслухвацца ў гэта чароўнае жыццё не замінала нават халодная чысціня, што студзіла пальцы. Дастаць скрыпку і пачаць граць. Небу, промням, белым сценам. Сёння можна паспрабаваць даўно ўпадабаны Матэт Вацлава з Шамотул. Не бяда, што напісаны для харавога гучання. Сёння паслухаем, як гэта гучыць



у скрыпічным пераклажэнні: чарада арпеджаваных акордаў паўстае ўрачыста і няспешна, нібы магутная аркатура сцен старога храма. Апошняя, самая высокая, нота кожнага наступнага акорда на імгненне затрымлівaецца, утвараючы меладычны мост, і гэта дзіўным чынам супадае з завяршэннем замкавай вежы — рэльефам вокнаў, паднятых высока над зямлёю.

Тры дні назад тут добра гучалі скрыпічныя мініяцюры Міхала Ельскага. Мінулы тыдзень быў часам мазурак. Надвор'е дыктавала выбар. Спачатку запатрабавала мазурку Мацея Радзівіла, а здаволілася мазуркай Мікалая Чуркіна з драмы «Раскіданае гняздо». Акрэсцілася заканамернасць: як і паўтораны некалькі разоў, матыў эпохі кватрачэнта (раздзіманыя ветрам валасы і зморшчыны жаночага адзення) быў сведчаннем запазычання з антычнага мастацтва, так і гэтыя мелодыі і іх паходжанне былі праявай непарыўнай радавай сувязі з зямлёй і ўсім, што яна нараджае, у тым ліку і мелодыі. Музыка паглынала. Яна стала няспыннасцю.

Гукі скрыпкі адбіваліся ад мураванай сцяны, вярталіся гукавой хваляй. Спрытнасць дазваляла на гэту хвалю надбудаваць новае сугучча, а значыць, новую хвалю. Затым яшчэ адну, і яшчэ… Такім чынам стваралася гукавая архітэктура, якую, каб была магчымасць перавесці ў камень, назвалі б застылай музыкай.

Артыст аркестра быў перакананы: калі з плоскасці партытуры Бетховена нейкім фантастычным чынам прыўзняць усе гукавыя гарызанталі і «замарозіць» у паветры, атрымаецца прапарцыянальны партытуры прасторавы аб'ект — архітэктурная форма, дасканалая і бездакорная. Каб гучаць, ёй не трэба разгортвацца ў часе, як мы прызвычаіліся. Гучаць, трымцець, пульсаваць яна будзе не толькі па гарызанталі, але і па вертыкалі. І гэта не менш дзівосная музыка.

## ДЗЁННЫЯ ЭКЗЕРСІСЫ

…На службу артыст аркестра прыходзіў шчаслівa стомлены «адыграным» канцэртам. «Глабальныя зло» памяншалася ў памерах. Праблемы і задачы вырашаліся лёгка і амаль без намагання. Проста, тэхнічна і дакладна.

Ён прыдумаў сабе гэту схему жыцця, якая дазваляла ніштавата пачувацца пры любых акалічнасцях. Але раздзьмутае няважнае часта займала месца важнага, утвараючы дысбаланс, які чыніў дробныя нязручнасці і адбіраў вышыню.

Аднастайнасць адбірала вышыню і завостранасць рызыкі. Акампанемент тэрцый, аб'яднаных па тры-чатыры на такт, паступова ператвараўся ў аднародную зарытмізаваную шэрую калатушу. Калатуша ўшчыльнялася, рабілася мяккім пластылінавым рэчывам, халаднела і станавілася цаглянай. Цэглы ператвараліся ў брускі, брускі — у бетонныя пліты, пліты зацираліся ў муру. Шэрая сцяна мура завісала недзе над галавой, пагрозліва і ціха пагойдваючыся. Самае складанае было не прапасці вось пад гэтым мурам.

Выратоўвалі рэдкія, але выключныя здарэнні. Сольныя канцэртныя выступ-ленні. Дзве трэці канцэрта ты — аркестрант. Тэхнічны, дакладны, ураўнаважаны і надзейны. Астатні час — саліст. Узыход на вышыню і ёсць адсутнасць той самай раўнавагі, спакою і ўзважанасці.

## ПАЛЁТ

Адзін у небе. Палёт. Невыносная залежнасць ад сябе і ад усяго, што навокал. Кожны раз як першы. Гэтаму немагчыма навучыцца. Знаёмыя, звычныя гукі набываюць іншы змест, аблічча, сэнс. Усё нібы тое самае, знаёмае, але пануюць іншыя законы. Тонкая матэрыя вобразаў стварае рэальнасць, і ніяк не пальцы, не думка. Усе «краявіды» і «аб'екты» па незразумелых прычынах утрая павялічваюцца альбо памяншаюцца. Памяняць траекторыю немагчыма. Можна толькі ўзняцца альбо абрынуцца.

З паднябесся спадала нетутэйшай празрыстасці цішыня. Памяншаліся ў памерах сцены, крэслы, люстры, людзі… Гукі спынялі дыханне, дзіцячую няўседлівасць. Плылі над горадам, краінай, краналіся аблокаў, расхіналі іх, супадалі з рытмам мігцення далёкіх зор, сусвету. Сціхалі бесы. Сціхалі Анёлы. Яны слухалі. Слыхам станавілася ўся іх не-матэрыяльная субстанцыя.

Шчасце сышло на зямлю. Шчаслівая музыкай душа музыканта множылася з кожнай нотай. Імкнулася да ўсмешкі формы. Акордавыя вежы саступалі месца новым сугуччам, фразам і матывам. Зацікаў пад бязважкім смыкам падоўжаны, агучаны струной, нечы «позірк». Знікаў лёгкім воблакам. Празрыстае пяро залацістай радасці ўздымалася зрушаным паветрам і няспешна апускалася долу. Адгучаўшы, яны ўсе згасалі. Не згасала толькі памножаная гукамі шчасце.

Публіка не адразу адважылася на апладысменты. Нерашучыя, нясмелыя, яны выпырхвалі з рук слухачоў нібы птушкі — жывыя і ўдзячныя.

Апладысменты змяніліся віншаваннямі, здзіўленнямі, зычэннямі. Моўны вір зліваўся ў пярэстую масу слоў, фраз, воклічаў. Музыкант адчуваў сябе ў цэнтры чалавечага тарнада, якое не кранался яго. Ён паглынуўся цішай. Цішу бараніла вышыня і музыка. А ён пагойдваўся ў іхніх абдымках нібы на арэлях — рыхтык ягоная скрыпачка ранкам у футарале.

Закалыханыя такім вечарам, яны вярталіся дадому. Напаўпустыя тралейбусы забяспечвалі збераженне сабранай цішыні і працяглы роздум без асэнсавання. Калыханне музыкі і цішыні здавалася бясконцым.

На сваёй струне



Ларыса СІМАКОВІЧ, кампазітар

## ВЯЧЭРНІЯ МРОІ

У тралейбус ускочыла пара падлеткаў. Хлопчык і дзяўчынка. Дзяўчынка крыўдзілася. Хлопчык апраўдваўся: «Я быў у філармоніі..»

«Дзе?» — ускочыла чорным зайцам пытанне ў закалыханыя мроі музыканта.

«Дзе?» — перапытала дзяўчынка.

«У філармоніі… Мне квіток падаравалі. Адзін. Думаю, схаджу, пагляджу. Не спадабаецца, сыду. Не змог. Там музыкант адзін… Музыкант аркестра… Ну, як? Аркестрант адзін… граў… на скрыпцы… я не мог скрануцца з месца… са мной ніколі такога не здаралася… я дыхнуць не мог… я на ўсё забыўся…»

— Як не было? А Рэ:паблік на мінулым тыдні? А тады, памятаеш, у «Графіці»? Адрыва-а-аліся…

— Неяк не так…

— Як не так?

— Ну, не так неяк… адкуль я ведаю… некуды усё зляцела, усе зляцелі, нікога не было побач… добра, што хоць прозвішчы музыканта запомнілася…

— І?

— …Алякс… Алег… Подаў…

«Алег Подаў? — чорны заяц спалохана шугануў за найбліжэйшы пагорак. — Запомнілі маё імя?»

— Алег Подаў?

— Так, Алег Подаў.

— А што за канцэрт?

— Не скажу…

— Скажы!..

— Канцэрт класічнай музыкі…

— Ты слухаеш класіку?

— Я ж кажу: квіток падарылі!..

— А мне?

— Ды… Я не збіраўся… цяпер 10 красавіка — мой дзень. Буду ведаць. Я ж думаў, гэта спектакль. Называўся «Гісторыя скрыпкі»… Я люблю ўсялякія гісторыі… з дзяцінства… а гэта — канцэрт…

— Трэш! Калі будзем выходзіць з тралейбуса, не забудзься падаць мне руку…

— Добра!..

І зніклі ў ночы. Чорныя зайцы разбегліся. Мроі вярнуліся. Вярнулася дзяцінства — цёплае і ўтульнае, — калі вяртаешся з бібліятэкі з поўнай торбай нечытаных кніжак. Калі кожная кніжка абяцае шчасце. І радасць. І чаканне вечара. Запаленай лямпы. Імгненнага нырца ў невядомае жыццё кніжных краін. Цёплага ложка. Салодкага сну. Сцішанага калыхання на краі аблокаў.

Звон невядомай музыкі набліжаецца і знікае. Калыхаецца мілагучным маятнікам. Слаіцца, распадаецца. Гукавыя атожылкі выдратоўваюць сабе новыя лапінкі зместу, сэнсу. Чаруюць. Звон пераліваецца, гуляе народжанымі абертонамі і, па законе музычнага прыцягнення, супадае са звонам струны.

# Мастацтва барацьбы

## адлюстравана ў ваенных плакатах айчынных мастакоў

**З пачатку Вялікай Айчыннай вайны мастацтва стварэння патрыятычнага плаката было абавязковай, важнай справай на тэрыторыях Савецкага Саюза. Не фармальнасць: стварэнне ваенных агітацыйных ілюстрацый было канцэптуальным. Некаторыя з іх можна ўбачыць і ў наш час. У архівах Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь захавалася калекцыя ваенных плакатаў, якія на працягу мая дэманструюцца ў адным з выставачных памяшканняў музея.**




Выратаванне свету ад фашызму стала звышзадачай для ўсяго савецкага народа. І мастакі ў гэтым адыгрывалі не апошнюю ролю. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны ўзяліся за пэндзлі, алоўкі, зрабіўшы галоўныя кампаненты мастацтва сур'ёзнай зброяй супраць ненавіснага ворага. У жудасны вайне творцы здолелі абвергнуць знакамітае выказванне «Калі грымяць гарматы, музы маўчаць», даказаўшы, што нават у самыя цяжкія часы музы могуць гаварыць, ды так, каб прыслухаліся і зразумелі.




Выстаўку гістарычнага музея складае каля пяцідзесяці ваенных плакатаў, выкананых у разнастайных тэхніках з выкарыстаннем тушы, гуашы і акварэльных фарбаў. У аснове сюжэтаў — сцэны нападаў савецкага воіна на фашыста. Адчуваецца сатырычны і іранічны падтэкст у бок ворага. Асабліва гэта заўважна, калі чытаеш такія цікавыя лозунгі: «Даведаўся фашысцкі сцярвятнік, што ў нас — не ягнятнік» альбо калі глядзіш на плакат «Пра пацука галоднага і сілу народную».

Прадстаўленыя экспанаты падводзяць да думкі, што мастакі-плакатысты працавалі менавіта над псіхалогіяй чалавека, над яго патрыятычным сумленнем. Ілюстрацыйнымі заклікамі аўтары фарміравалі адпаведны настрой: ісці наперад, змагацца за радзіму.

Якой неверагоднай сілай валодаў ваенны плакат! Толькі ў 1941 годзе, выкарыстоўваючы трафарэты, аўтары стваралі каля ста экзэмпляраў аднаго і таго ж плаката, толькі самыя ўдалыя маляваліся ад рукі з арыгінала, а ў 1945 годзе, калі вытворчасць наладзілі лепш, лічба павялічылася да тысячы двухсот экзэмпляраў. Атрымліваецца, плакат быў патрэбны чалавеку, бо сіла слова і сіла мастацтва ў сукупнасці аб'ядноўваліся ў моцную зброю супраць непрыяцеля. Гэта падтрымка не толькі для франтавых салдат, але і для іх блізкіх, якія засталіся чакаць герояў.

Асноўнай тэмай ваеннага плаката былі баявыя дзеянні Чырвонай Арміі і гераічны подзвіг працаўнікоў тылу. Але нярэдка ваенныя агіткі закранаeasy і тэму працоўнай дысцыпліны. Людзей матывавалі дапамагаць франтавікам і хворым салдатам, спрыяць адзінству фронту і тылу. Адлюстроўвалі айчынныя мастакі на плакатах і жанчын. Звычайна гэта былі простыя жаночыя вобразы, якія асацыяваліся і з маці, і з радзімай. Псіхалогія ўздзеяння такога плаката заключалася ва ўсхваляваным выразе твару жанчыны і ў яе заклікальным жэсце абавязкова вярнуцца дадому.

Адна з галоўных разынак прадстаўленай выстаўкі — выдадзены ў Беларусі ваенны плакат «Раздавім фашысцкую гадзіну». Гэтая агітацыйная ілюстрацыя дапамагае адчуць вялікую цану подзвігу і імкнення народа захаваць спадчыну, патрыятычны твар і родную зямлю.

Выстаўка ваенных плакатаў стала традыцыйнай для мінскай публікі, але кожны год калекцыя гістарычнага музея папаўняецца і становіцца больш інфарматыўнай. Мастацтва плаката, прадстаўленае ў экспазіцыі, дапамагае яскрава адчуць і зразумець, наколькі прафесійна аўтары-плакатысты маглі размаўляць і змагацца за жыццё сродкамі, якія, здаецца, да вайны не маюць ніякага дачынення.

**Вікторыя АСКЕРА**

## Культурны ракурс



Нясвіжскі замак можа лічыцца «братам» рымскага сабора Пятра і Паўла, паколькі яго будаўніцтвам таксама займаўся знакаміты італьянскі дойлід Джавані Бернардоні. Вынікам працы майстра стаўся раскошны палац з 12 заламі, кунсткамерай і салідной бібліятэкай, пры гэтым наяўнасць вала, рова і бастыёна з артылерыяй ператварылі яго ў пагрозлівую крэпасць.

Нясвіжскі палац — адна з галоўных фартэцый і рэзідэнцый роду Радзівілаў. Першапачаткова на яго месцы стаяў драўляны замак, які ў сярэдзіне XVI стагоддзя быў умацаваны. Але свой велічны стыль будынак атрымаў па ініцыятыве Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі ў 1583 годзе. Яшчэ адна перабудова прыйшлася на XVIII стагоддзе, калі замак прыдбаў сваю барочную какетлівасць, ажурныя балконы і невялікія вежы.

Палац стаў шыкоўным не толькі звонку, але і ўнутры. У калекцыі яго інтэр'ераў былі статуі 12 апосталаў, адлітыя з золата і срэбра ды ўпрыгожаныя каштоўнымі камянямі. Аднак з 1812 года лёс іх невядомы, як і лёс многіх іншых радзівілаўскіх скарбаў.

Радзівілаўскі палац — візітка не толькі Нясвіжа, але і нашай краіны ўвогуле. А ці кожны з нас там пабываў?..

**Кацярына ХАРЫТОНАВА**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* **lim_new@mail.ru** *з пазнакай* **«Культурны ракурс»** *— лепшыя будуць апублікаваны на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК

Рэдакцыйная калегія:
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер

Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 12.05.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1736.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 1879

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.

© Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2016
© ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», 2016
© Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"», 2016

ISSN 0024-4686